

# Краязнаўчая газета

№ 39 (56)

Кастрычнік 2004 года

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



*28–31 кастрычніка ў Маладзечне збяруцца артысты аматарскіх тэатраў нашай краіны. Пройдзе фестываль аматарскага тэатральнага мастацтва «Тэатральныя скрыжаванні». Якіх толькі самабытных талентаў там не пабачым!*

## Першы збор звычаяў і законаў

**Кожныя народ і дзяржава няпроста і доўга, нават пакутліва, часамі не толькі праз спрэчкі-дыскусіі, а і праз грамадзянскую вайну ідуць да сваёй Канстытуцыі (ад лац. лад) – да Асноўнага Закона, які спачатку часова, а пасля калі не навечна, то надоўга вызначае лад жыцця, абавязковы для ўсіх. Бывае, Канстытуцыя прымаецца лёгка і з самымі дэмакратычнымі пастулатамі, «ухваляецца ўсенародна» (у таталітарных рэжымах, як у 1930-я гады ў СССР), але яна «спіць» на паперы, за яе дзейнічае, як некалі казалі, звычаёвае права.**

(Працяг на стар. 5)

## У Мінпрыроды лічаць перспектыўнай распрацоўку карысных выкапняў у Беларусі

У цяперашні час Беларусь вядзе прамысловую распрацоўку больш як дзесяці відаў карысных выкапняў.

У прыватнасці, на тэрыторыі рэспублікі дэталёва разведаны два радовішчы калійных соляў з агульнымі прамысловымі запасамі больш як 6,8 мільярда тон (іх доля перавышае 10 працэнтаў сусветных). У Беларусі – адзін з самых значных запасаў каменнай солі – 750 мільёнаў тон. Залежы даламітаў складаюць 22 мільярды тон.

Паводле інфармацыі Мінпрыроды, агульныя запасы мелу ў рэспубліцы складаюць 207 мільёнаў тон, будаўнічага каменю – 25,3 мільёна тон, будаўнічага і сілікатнага пяску – 477 мільёнаў кубічных метраў, пясчана-гравійных матэрыялаў – 688 мільёнаў кубічных метраў, лёгкаплаўкіх глін для вытворчасці цэглы – 269 мільёнаў кубічных метраў. У Беларусі выяўлены радовішчы торфу з запасамі 3 мільярды тон, фармовачных пяскоў з агульнымі запасамі больш як 31 мільён тон. У прамысловай распрацоўцы таксама знаходзяцца радовішчы сапрапеляў, бурых вугаляў, кухоннай солі. Беларусь мае значныя запасы прэснай і мінеральнай вады. У рэспубліцы вывучаюцца магчымасці далейшай распрацоўкі такіх выкапняў, як алмазы, золата, бурштын, даўсанітавыя руды, якія з'яўляюцца сыравінай для атрымання алюмінію і кальцыніраванай соды, выяўлена рудапраяўленне валасуаніту (выкарыстоўваецца ў керамічнай прамысловасці), глаўканіту (прымяняецца як фарбавальнік), крышталічных парод з утрыманнем графіту 2,9–6,1 працэнта.

## Беларускаму дзяржаўнаму музею гісторыі Вялікай Айчыннай вайны – 60 гадоў



***Датай заснавання музея можна было назваць кастрычнік 1943 года, калі Цэнтральны штаб партызанскага руху з Масквы прыслаў у большасць злучэнняў і брыгад, якія ваявалі супраць фашысцкіх захопнікаў у Беларусі, тэлеграму з патрабаваннем збіраць экспанаты (падпольны партыйны і камсамольскі друк, трафейную зброю, асабістыя рэчы) для стварэння будучага музея гісторыі барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Трэба было моцна верыць у перамогу, каб у час, калі большая частка Беларусі яшчэ знаходзілася ў руках ворага, думаць пра музейную справу, пра справу выхавання будучых пакаленняў людзей.***

І вось усяго праз год у цэнтры Мінска адчыніліся дзверы новага музея – музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў адным з нямногіх ацалелых будынкаў. Мала хто ведае, але былыя партызаны і падпольшчыкі самі рамантавалі гэты будынак (цяпер Дом прафсаюзаў на плошчы Свабоды), самі рыхтавалі выставачныя экспазіцыі, самі праводзілі першыя экскурсіі і... вучыліся музейнай справе.

Праз залы музея праходзілі і нешматлікія жыхары Мінска, якім выдалася шчасце перажыць акупацыю, і тыя салдаты, афіцэры, што адпраўляліся на фронт. Сведкі тых падзей расказвалі, як моцна ўздзейнічала тая першая (можа, не вельмі па-музейнаму зробленая) экспазіцыя на людзей. З якім пачуццём патрыятызму пакідалі яны сцены музея!

Час няўмольны. Мала хто з першых супрацоўнікаў музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны дажыў да нашых дзён. Для нашчадкаў няхай захаваюцца іхнія прозвішчы: В. Корш-Саблін, С. Шчуцкі, П. Лавецкі, В. Сікорскі, В. Раманоўская, Н. Латышэўскі, Р. Доўнар-Запольская, В. Верамейчык, Л. Чэпурнова, Л. Чванаў, А. Кроль... Даруйце, што не ўсе імёны захавала памяць, але ўсім-усім хачу выказаць вялікую падзяку за самаахвярную працу музейшчыка – карпатлівую, дасведчаную і... малааплачваемую. Новаму пакаленню музейных работнікаў жадаю браць прыклад са старэйшых, а таксама навуковых і экспазіцыйных адкрыццяў, добразычлівасці наведвальнікаў і, безумоўна, дабрабыту ў жыцці.

***Уладзімір ГІЛЕП, былы намеснік дырэктара па навуковай частцы Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны***



**На здымках:** *шлях да музея (1974 год); супрацоўнікі музея (1971 год).*



# Дыпломы Нясвіжскай акадэміі

Ёсць, аказваецца, такая навучальная ўстанова ў Польшчы. Яна была створана восенню 1994 года ў адпаведнасці з дамоўленасцю паміж міністэрствамі культуры Беларусі і Польшчы і дзейнічае на базе Агульнапольскага асяродка даследаванняў і дакументацыі помнікаў культуры ў Варшаве і Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры.

Нядаўна ў Варшаве прадстаўнікам Беларусі, Літвы і Украіны былі ўручаны дыпломы аб заканчэнні IX курса Міжнароднай паслядыпломнай летняй школы так званай Нясвіжскай акадэміі. Як паведаміла прэсслужба МЗС нашай краіны, у мерапрыемстве ўзялі ўдзел намеснік міністра культуры Польшчы Рышард Міклінські, рэктар Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры Уладзімір Скараходаў, пасол Беларусі ў Польшчы Павел Латушка, дэлегацыя міністэрства культуры Літвы.

У час урачыстасці прамоўцы адзначалі, што Нясвіжская акадэмія з'яўляецца важным сродкам падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне захавання і аднаўлення помнікаў ландшафтнага мастацтва – гістарычных паркаў, садоў, сядзіб, могілак і г.д., якія з'яўляюцца сумеснай культурнай спадчынай беларускага, польскага, літоўскага і украінскага народаў. На працягу 10 гадоў дыпломы выпускнікоў школы атрымалі больш за 100 спецыялістаў у галіне ланшафтнай архітэктуры з Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны.

Сёлета ў Нясвіжскую акадэмію паступіла чарговая група слухачоў на X курс. Ён будзе прысвечаны даследаванням палацава-паркавых ансамбляў Беларусі і Польшчы.

**Леанід ТУГАРЫН, «Звязда»**

Той, хто падпісаў інфармацыю аб «Нясвіжскай акадэміі», на жаль, памыліўся: такая навучальная ўстанова (Міжнародная паслядыпломная летняя школа па падрыхтоўцы спецыялістаў гістарычнага ландшафту) існуе не толькі ў Польшчы. Навучанне, як правіла, пачынаецца на беларускім баку, дзе слухачы маюць магчымасць атрымаць тэарэтычны курс, а іх практычныя заняткі адбываюца на базе аднойлены палацава-паркавых ансамбляў Польшчы. Там жа яны абараняюць і свае дыпломы, атрымліваюць міжнародны сертыфікат, які дае права працаваць у галіне рэстаўрацыі культурнага ландшафту.

У сувязі з 10-годдзем заснавання «Нясвіжскай акадэміі» хацеў бы шчыра павіншаваць яе выпускнікоў, выкладчыкаў, пажадаць ім поспехаў на шляху зберажэння культурнай спадчыны сваіх краін (Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі). Хочацца добрым словам успомніць і бацькоў-заснавальнікаў «Нясвіжскай акадэміі»: У. Дражына – былога старшыню Нясвіжскага выканкама, У. Скараходава – рэктара Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, Т. Поляка – былога намесніка міністра культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча, А. Міхалоўскага – дырэктара Цэнтра культурнага ландшафту Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы. Менавіта іхнімі намаганнямі гэта унікальная ўстанова давала і працягвае даваць плён на карысць спадчыннай культуры суседніх краін і братніх народаў.

**Уладзімір ГІЛЕП, прэзідэнт «Нясвіжскай акадэміі»**

# Ганнінскі кірмаш

## У Зэльве адноўлена адна з традыцый ВКЛ, якая стала абласным святам

*Ганнінскі кірмаш. Менавіта так у XVIII – XIX стагоддзях называўся кірмаш, які праславіў Зэльву на ўсю Еўропу. Прычынай гэтаму стаў прывілей вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Аўгуста II ад 20 мая 1721 года, які атрымаў Антоні Казімір Сапега на правядзенне ў Зэльве з 25 ліпеня па 25 жніўня штогадовых Ганнінскіх (у гонар святой Ганны) кірмашоў.*

НА ЗЭЛЬВЕНСКІ КІРМАШ з'язджаліся гандляры з многіх беларускіх гарадоў і мястэчкаў, а таксама з Польшчы, Прыбалтыкі, Украіны, Расіі, Аўстрыі, Прусіі, Італіі, Даніі, Швецыі і з іншых дзяржаў.

Што ж прывозілі купцы ў Зэльву? Напрыклад, з Расіі, яны прыязджалі першымі і прывозілі футра, жалеза, шкло, прыганялі коней. Украінскія купцы, а таксама гандляры з балканскіх краін прывозілі віно, розныя бакалейныя вырабы, тытунь, чай, каву. Прыганялі яны і коней, якія карысталіся вялікім попытам у пакупнікоў. Дарэчы, конскі торг – адна з характэрных рыс зэльвенскага кірмашу. У асобныя гады тут прадавалі па некалькі тысяч коней. Гэта былі коні, у асноўным, з Расіі. Гандляры з далёкіх паўднёва-ўсходніх краін, якія ў пачатку 20-х гадоў XIX стагоддзя былі абкладзены вялікімі мытнымі пошлінамі, прывозілі ўсё менш сваіх тавараў. Справа ў тым, што іх дарагія тавары выцясняла прадукцыя расійскіх і польскіх, а таксама мясцовых мануфактур. Вялікім поспехам карысталася сукно Слонімскай суконнай фабрыкі сенатара Навасільцава.

З таго часу прайшло больш за стагоддзе. Але тры гады таму згадалі пра зэльвенскі славуты кірмаш Упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама і Зэльвенскі райвыканкам. Тады ў Зэльве ўпершыню было адноўлена гэтае вялікае абласное свята. Цяпер яно стала традыцыйным і збірае тысячы людзей.

СЁЛЕТНІ ВЯЛІКІ ГАННІНСКІ кірмаш пачаўся на цэнтральнай плошчы пасёлка. Свята віталі мясцовыя акцёры ў вобразах князя Сапегі і яго світы, а таксама тэатралізаванае прадстаўленне «Кірмашовая карусель».

З цэнтра Зэльвы свята разышлося па ўсім пасёлку. У скверыку людзі знаёміліся з выставай мясцовых мастакоў – абразамі Марыі Харытончык, карцінамі Яўгена Кунцэвіча, Максіма Чыжэўскага, Наталлі Дарафей, Івана Васюкевіча і партрэтамі, намаляванымі алоўкам, мастачкі Святланы Ліпскай.

Пасля абеду свята працягвалася на стадыёне «Колас». Запомніліся найперш конкурс павозак і выстава парод коней. Лепшымі аказаліся павозкі з вёсак Падбалоцце, Міжэрычы і Дабрасельцы Зэльвенскага раёна. Яны былі арыгінальныя і прыгожа аформленыя. А на выставе парод коней лепшым быў беларускі запражны конь Каштан Аляксандра Міхуты. Беларускіх і рускіх цяжкавозаў прывезлі на выставу амаль з усіх вёсак Зэльвеншчыны.

Цікавымі і захапляльнымі на святе ў Зэльве былі паказальныя выступленні выхаванцаў конна-спартыўнай школы Ваўкавыска і рыцарскі турнір, арганізаваны гістарычным тэатрам з Полацка «Полацкі звяз», а таксама святочны феерверк і дыскатэка для моладзі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Народны разбяр з Нарагляншчыны М. Максіменка

## Увага

***У выдавецтве «Беларускі фонд культуры» выходзіць бібліятэчка «Краязнаўчай газеты». Першы выпуск прысвечаны вытокам і крыніцам краязнаўства ў Беларусі (XIII – пачатак XX стст.) і змяшчае наступныя раздзелы: 1. Зараджэнне і развіццё краязнаўства на Беларусі са старажытнасці і ў перыяд ВКЛ. 2. Краязнаўства Беларусі за Рэччу Паспалітай (1569–1795). 3. Краязнаўства Беларусі ў час знаходжання ў складзе Расійскай імперыі (1795–1917).***

***Заяўкі на выданне аб'ёмам 2,9 ул.-выд. арк. можна накіраваць па адрасе «КГ»: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, д. 6.***

***Арыенціровачны кошт выдання 1800 руб.***

**Рэдакцыя «Краязнаўчай газеты»**

## Новыя найменні вуліц

Сёлета гарадскія межы Мінска пашырыліся: у іх увайшлі некалькі бліжэйшых вёсак. Некаторыя назвы іх вуліц (пераважна галоўных) супадалі з назвамі мінскіх. Таму даводзіцца іх перайменоўваць.

Тапанімічная камісія пры Мінскім гарвыканкаме дала свае рэкамендацыі выканаўчым уладам. У асноўным захоўвалася ранейшая тапаніміка, назвы вёсак і бліжэйшых фальваркаў і ўрочышчаў. Так, галоўная вуліца ў Масюкоўшчыне так і будзе называцца: Масюкоўшчына, у Ржаўцы – Ржавецкая, у Цна-Ёдкаве – Ёдкаўская. Атрымалі мінскую «прапіску» найменні беларускіх гарадоў і пасёлкаў, якія знаходзяцца ў адпаведным напрамку (Ашмянская, Браслаўская, Валожынская, Гальшанская, Глыбоцкая, Івянецкая, Лепельская, Ушацкая). Прыгаданы імёны беларускіх вучоных – акадэмікаў Сяргея Вышалескага і Антона Жэбрака, псіхолага Льва Выгоцкага.

Адна з вуліц названа імем легендарнага разведчыка, ураджэнца Чавусаў Льва Маневіча. Імёны дзеячаў культуры Станіслава Манюшкі, Язэпа Драздовіча і Каруся Каганца рэкамендавана ўвекавечыць у назвах новых вуліц у Лошыцы. А бульвар Луначарскага – перайменаваць у бульвар Мулявіна. Паводле рэкамендацыі гарадскія ўлады прынялі адпаведнае рашэнне.

**Галіна ВІР, «Голас Радзімы»**

*Дзіцячы парк: чытацкі водгук*

# Адкрыты ліст

*Спадару У.А. Гілепу, старшыні Беларускага фонда культуры*

Велешаноўны Уладзімір Аляксандравіч!

Спадзяюся, што не толькі я спраўджваю надзею на водгукі з нагоды Вашае ініцыятывы перайменаваць сталічны парк імя М.Горкага ў парк Сымона-музыкі.

Некалькі гадоў выхоўваўся я ў дзіцячым садку № 32 Беларускай чыгункі, а цяпер, як надарылася, маё месца працы – у тым самым доме на вуліцы Фрунзе, 9 пры парку імя Горкага.

Мне, як і тысячам мінчанаў, стаўся гэты парк адным з улюбёных месцаў адпачынку, а бывала, і натхнення. Але назва ягоная бянтэжыла даўно. Магчыма, ва ўсім былым Саюзе дзіцячыя паркі чамусьці насілі імя «пралетарскага», але не сказаць каб выдатнага дзіцячага пісьменніка. Ён што, больш за іншых літаратараў любіў паркі? Або штосьці істотнае зрабіў для росквіту нашага, ані разу не ступіўшы на беларускую зямлю?! Куды болей логікі было б называць сталічны парк у гонар братоў Грым, Ханса Хрысціяна Андэрсена, Льюіса Кэрала або Шарля Перо.

А нашаму парку абсалютна правільна было б, на маю думку, надаць імя аўтара кнігі «Другое чытанне для дзетак беларусаў», якая ў многім вызначыла змест і накірунак беларускай дзіцячай літаратуры. Гэта дало б магчымасць яшчэ раз уганараваць слыннае імя Якуба Коласа, які меў дом на тэрыторыі сучаснага парку з 1927 па 1941 год. Наш класік, зразумела, не толькі жыў там, але і задумваў, пісаў свае несмяротныя творы. Дзякаваць Богу, у якасці напамінку пра гэта на будынку дырэкцыі парку гадоў пяць вісіць памятны знак. Напэўна, Вы ведаеце пра яго, але дазволю сабе дасласць і фотаздымак, зроблены маёй дачкою Хрысцінаю.

Думаецца, што вельмі лагічна і вельмі сімвалічна было б, каб на абодвух берагах Свіслачы, на два бакі ад праспекта Францыска Скарыны мясціліся б сквер і парк з імёнамі нашых класікаў, як у нашае літаратуры стаяць поруч Янка Купала і Якуб Колас. Акрамя таго, і беларускі Дом літаратара стаў бы «прывязаны» да парку з айчынным літаратурным імем.

А вось «парк Сымона-музыкі», спадзяюся, пагодзіцеся са мною, гучыць і ўспрымаецца ўсё ж крышачку горш.

Патлумачу. Па-першае, далёка не кожны з бацькоў здолее расказаць дзіцяці пра героя Коласавай паэмы. Па-другое, непазбежныя будуць памылкі, як мінімум, ў вымаўленні. Паверце, Уладзімір Аляксандравіч, сам быў сведкам таму, як у самалёце хлопчык-школьнік двойчы схібіў у націсках, калі, трымаючы папяровы пакуначак, спытаўся ў маці: «А што такое «цукарпясок?»

А як да скульптурнай выявы Максіма Горкага, дык цалкам згодны з Вамі. Нічога з ёю не трэба рабіць – хай сабе сядзіць Аляксей Максімавіч. Хопіць у парку месца і яму, і К.Цыялкоўскаму, хаця больш цешыла б мяне пры планетарыі выява нашага выдатнага мастака і мысляра, аўтара трактата «Нябесныя бегі» Язэпа Драздовіча або сусветнавядомага вучонага ў галіне астранаўтыкі Барыса Кіта.

А з цягам часу скульптары з архітэктарамі знайшлі б месца і на выдатны помнік народнаму паэту Беларусі пад шатамі сосен, якія яшчэ памятаюць песняра.

*З шанаваннем, Уладзімір СІЎЧЫКАЎ*

*6 кастрычніка 2004 г.*





*Школьнае краязнаўства*

***Жодзіна. Агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 4. На дварэ май месяц, а ў школе – апошні званок. Гляджу на свой 11 «А». Нязвыкла прыціхлыя, урачыста сур'ёзныя. Дзяўчаты ўсе як адна ў белых фартушках, з вялізнымі белымі бантамі ў прычосках. Як адзінаццаць гадоў таму. Гучаць развітальныя прамовы, звініць апошні званок. Імкліва ўзнесліся ў хмарнае неба рознакаляровыя шарыкі. Такая кароткая лінейка, а так многа хочацца прыгадаць...***

# «Успамінаем часта школу ўсе мы»

## Лірычна-гістарычны роздум з нагоды юбілею школы

Школьныя будні часам нагадваюць мне адзін з тых бясконцых серыялаў, які доўжыцца гадамі. І з цяжкасцю верыцца ў нейкі там фінал... Колькі розных падзей – сумных і радасных, камічных і драматычных – паўстае перад вачыма. «Вуліца Калініна названа так у гонар нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага», – складаем слоўнічак мясцовых тапонімаў. «У аповесці расказваецца пра тое, як аднаму палку з шасці чалавек трэба было перакрыць дарогу на суткі», – пішам сачыненне, няцяжка здагадацца, па якім творы Васіля Быкава. «Калі быў бы хірургам, то працаваў бы добра. А пасля мяне людзі, як агуркі, здаровымі былі б», – вывучаем умоўны лад дзеяслова. «Палеская вёска на балоце Івана Мележа», – падбіраем тэму для сачынення. І кожны год ладзім нейкае падарожжа, паездку ці вандроўку па родным краі, адшукваючы новыя мясціны, адкрываючы новыя маршруты, назапашваючы новыя ўражанні. Сем гадоў запар разам з дзецьмі адкрывалі для сябе Краіну Беларусь. І заўсёды гэта было непаўторна.

У Заслаўе, напрыклад, прыехалі без папярэдняй дамовы (мы так часцяком рабілі), проста селі на электрычку і паехалі. А там наведвальнікаў звыш меры, у музеях час распісаны ледзь не па хвілінах. Аднак супрацоўнікі музейнага комплексу аказаліся людзьмі неабыякавымі і гасціннымі, дзякуй ім вялікі за гэта. Для нас, нечаканых, знайшліся і экскурсаводы, і час. Надвор'е спрыяла. Нахадзіліся, замарыліся, здаецца, можна і дадому. Аднак мае юныя падарожнікі заўпарціліся і дружна патрабавалі: «Яшчэ адзін круг!» Аглядную экскурсію па старажытным Заслаўі прыйшлося паўтарыць. Да вандроўкі па роднай Смілавіччыне, наадварот, рыхтаваліся загадзя: усё прадумалі, мелі дамоўленасць з дасведчаным чалавекам. Наведаць збіраліся вёску Прылепы: старажытнае гарадзішча, руіны панскага палаца, прыгожае наваколле... На Смілавіцкай аўтастанцыі нас чакала неспадзяванка: аўтобусы не ходзяць, бо няма бензіну (1999 год). Самае разумнае было б, напэўна, адкласці вандроўку да лепшых часоў. Аднак удзельнікі экспедыцыі «Не!» гукнулі так дружна, што гэтую думку адразу прыйшлося адкінуць. Пайшлі пехам, пад'ехаўшы да Слабады электрычкай. Вось так, дзякуючы выпадку, нарадзіўся ў нас цікавейшы маршрут. Праз нейкі час карта гэтай вандроўкі, створаная нашымі выпускнікамі Аней Цімоней і Вольгай Кулінчык, на рэспубліканскім конкурсе на лепшы праект краязнаўчага маршрута атрымала дыпломы трэцяй ступені, якія і былі ўручаны дзяўчатам проста на выпускным вечары.

Увогуле, краязнаўчыя традыцыі атрымалі сталую прапіску ў школе ледзь не з першых дзён яе існавання. Прывяду адзін прыклад. Калі з членамі гуртка «Спадчына» ладзілі экскурсію на радзіму Якуба Коласа, то ў нейкім сэнсе адчувалі сябе ледзь не першапраходцамі. І толькі пазней, разбіраючы старыя паперы ў кабінеце роднай мовы і літаратуры, натрапіла на дзве невялікія кніжкі пра Якуба Коласа. Адна з аўтографам брата песняра, таго самага Юзіка з паэмы «Новая зямля», які «пальцам поркаў страву і верашчакай мазаў лаву» падчас снядання. Кніжка падпісана ў Смольні ў 1969 годзе. Другая з надпісам «з дарагіх і сэрцу блізкіх родных мясцін Якуба Коласа», зробленым рукой пляменніка Коласа У.І. Міцкевічам 17 чэрвеня 1975 года.



*Выпускнікі і былы настаўнік: Алесь Марачкін, Уладзімір Сіўчыкаў і Аляксандр Сабалеўскі (май 2004 г.)*

У справе вывучэння роднага краю мы не абмяжоўваемся аднымі экскурсіямі і падарожжамі. У школе неаднаразова ладзіліся этнаграфічныя выставы, арганізоўваліся сустрэчы з цікавымі людзьмі. Надоўга запомнілася нашым дзецям сустрэча з паэтам-земляком Алесем Аркушам, які зараз жыве ў Полацку, але на родны горад не забываецца. Вельмі часта навучэнцы чацвёртай школы ўдзельнічаюць і перамагаюць у самых розных конкурсах, віктарынах. У мінулым годзе вучаніцы 11 «Б» класа Іна Пасюціна і Воля Зяньковіч атрымалі першае месца на гарадской навукова-практычнай канферэнцыі школьнікаў за даклад па краязнаўстве «Карані і крона: з гісторыі аднаго радаводнага дрэва», у якой даследавалі гісторыю сям'і жодзінскіх старажылаў на працягу некалькіх стагоддзяў, ад часу заснавання Жодзіна ў канцы XVII стагоддзя да нашага часу.

Цяпер крыху пра магічную лічбу «4». Апроч таго, што для большасці школьнікаў гэтая лічба бачыцца адзнакай, не так даўно даволі прывабнай (а цяпер не дужа), для нашых дзяцей гэта яшчэ і нумар іх школы, якая сёлета адзначае свой саракагадовы юбілей. А свой самы першы званок школа дала ў кастрычніку 1964 года. І што цікава, здарылася гэта роўна праз 100 гадоў пасля адкрыцця першай жодзінскай школы. У далёкім 1864 годзе Жодзіна было сялом Барысаўскага павета, якое месцілася ў сутоку рэк Жодзінкі і Плісы. Аднакласнае народнае вучылішча аж да 1901 года не мела свайго памяшкання, вучні займаліся па хатах. У 1875 годзе яно налічвала 40 вучняў і аднаго настаўніка. Сёння ў горадзе каля дзесяці школ, гімназій, ліцэяў.

А ў 1964 годзе новая, чацвёртая, школа прыняла сваіх першых 14 вучняў. Педкалектыў налічваў 40 настаўнікаў і 1 выхавацеля. Сярод першых 26 выпускнікоў былі тры медалісты: Леанід Хоцін (сёння дацэнт Беларускага тэхналагічнага універсітэта), Галіна Бяльковіч (сёння дацэнт Магілёўскага універсітэта) і Анатоль Акуліч (закончыў ваенна-марскую акадэмію, служыў капітанам І ранга Паўночнага флота Расіі).

Прыгадаем і аднаго з першых педагогаў школы. Імя славутага мастака Алеся Марачкіна сёння добра вядома ў нашай краіне. Ведаюць яго і далёка за межамі Беларусі. Аднак мала хто ведае, што на пачатку сваёй дзейнасці Алесь Марачкін працаваў настаўнікам малявання і чарчэння ў СШ № 4 горада Жодзіна (з 1964 па 1970 год). Тут жа настаўнічала і жонка мастака – выкладала біялогію і хімію. Настаўніка Марачкіна былыя вучні ўспамінаюць з удзячнасцю. Асабліва запомніліся ўсім тыя незвычайныя газеты, якія рыхтаваў малады настаўнік разам са сваімі вучнямі і якія з вялікім поспехам паказваліся праз эпідыяскоп на школьных вечарах. Нам удалося адшукаць цікавы фотаздымак, зроблены ў 1966 годзе Алесем Марачкіным падчас працы над чарговым выпускам такой газеты. Заслугоўвае ўвагі і юнак на гэтым фотаздымку. Вучань 9 класа Аляксандр Сабалеўскі ў хуткім часе паступае ў мастацкае вучылішча, затым у тэатральна-мастацкі інстытут. Сёння Аляксандр Мікалаевіч вядомы ў горадзе чалавек, мастак і педагог, дырэктар створанай ім 15 гадоў таму мастацкай школы, у якой, дарэчы, у вольны ад вучобы час спасцігаюць таямніцы мастацкай творчасці многія вучні нашай чацвёртай школы. Штогод у маі месяцы гэта школа праводзіць дзень адчыненых дзвярэй. Сёлета госці мастацкай школы сталі сведкамі хвалюючай сустрэчы былых вучняў і настаўніка. У той памятны дзень ганаровымі гасцямі былі мастак Алесь Марачкін і пісьменнік і мастацтвазнавец, наш зямляк Уладзімір Сіўчыкаў. На памяць пра сустрэчу ў школе засталіся цікавейшыя выданні, а таксама карціна А. Марачкіна, прывезеная аўтарам у падарунак таму самаму Аляксандру Сабалеўскаму, творчая біяграфія якога пачалася некалі ў сценах чацвёртай жодзінскай школы. Так зерне «разумнага, добрага, вечнага», кінутае шмат гадоў таму маладым настаўнікам у прыдатную жодзінскую глебу, дало цудоўныя парасткі. У той жа Дзіцячай мастацкай школе працуе выкладчыкам яшчэ адзін выпускнік чацвёртай і былы выхаванец Марачкіна Мікалай Шышлоў, удзельнік шэрагу рэспубліканскіх і міжнародных мастацкіх выстаў.

«Школа – усё маё жыццё», – так называўся артыкул у гарадской газеце пра Аляксандра Ляшчэню, які працаваў дырэктарам СШ № 4 з 1974 года. Нядаўна Аляксандр Іванавіч пайшоў на пенсію, але пакінуць родную школу так і не змог. Вось ужо два гады ён узначальвае школьны музей баявой і працоўнай славы. Адкрыты музей у 1979 годзе, налічвае звыш 700 экспанатаў. Гэтым летам праведзена мадэрнізацыя музея, і з 1 верасня ён гасцінна чакае наведвальнікаў (тэлефон школы для патэнцыяльных наведвальнікаў 8-017-75-3-80-17). Застаецца толькі дадаць, што сёлета школьны музей узяў першае месца па вобласці за патрыятычнае выхаванне моладзі. Рыхтуецца таксама яшчэ адна экспазіцыя – краязнаўча-этнаграфічная.

За сорак гадоў існавання школы яе скончылі каля трох тысяч юнакоў і дзяўчат. Яны сталі настаўнікамі, урачамі, афіцэрамі, вучонымі, высокакваліфікаванымі рабочымі самых розных спецыяльнасцей. Карацей, чым толькі не займаюцца нашы выпускнікі. Ёсць нават мэр горада, зразумела, што нашага, – Валерый Кашэўскі (скончыў школу ў 1968 годзе). Двое сталі дыпламатамі, скончыўшы інстытут міжнародных зносін у Маскве. Адзін з іх, Ігар Ляшчэня, у мінулым кіраўнік аддзела краін Азіі і Афрыкі ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь, пасол Беларусі ў Егіпце, сёння памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. І мала хто зараз памятае, што ў час вучобы ў школе Ігар цудоўна маляваў і пісаў вершы.

Вельмі спадзяёмся, што хтосьці з былых нашых вучняў прачытае гэтыя радкі і адгукнецца.



*На этнаграфічнай выставе (хто ў лес, хто ў поле)*

***Сёння ў СШ № 4 г. Жодзіна штодня па веды прыходзяць 800 хлопчыкаў і дзяўчынак. З іх дапамогай, веру ў гэта, у школьную гісторыю будуць упісаны новыя, не менш яркія і запамінальныя старонкі.***

***Ірына ЗГРУНДО, настаўніца беларускай мовы і літаратуры***

# Смалічы, Смалявічы, Смалёўшчына...

Паўднёвы захад Мінскай вобласці гістарычна з'яўляўся тэрыторыяй з найбольш высокай шчыльнасцю насельніцтва. Менавіта сюды накіроўваліся ў першыя стагоддзі нашай эры авангардныя групы славянскіх перасяленцаў з больш паўднёвых раёнаў – Валыні і вярхоўяў Прыпяці.

Славянскія першапраходцы мелі групавое найменне, якое ў адных мясцовасцях гучала як смаляны або смаляне (напрыклад, на паўночным усходзе сучаснай Беларусі і ў прылеглых расійскіх раёнах), а ў іншых мясцовасцях, у тым ліку на Міншчыне, – смалічы. Што азначала гэтае найменне?

Яно адлюстроўвала асноўны кірунак гаспадарчай дзейнасці смалян-смалічоў – ляднае (пасечна-агнявое) земляробства. Смалянамі-смалічамі называлі тых, хто «паліць, выпальвае лес, расчышчае ў суцэльнай лясной зоне дзялянкі для палеткаў» – ад старажытнага славянскага слова «смаліці» («выпальваць»).

На паўднёвым захадзе Міншчыны, асабліва ў трохкутніку паміж Нясвіжам, Капылём і Клецкам, на больш сухіх і ўрадлівых, у параўнанні з паўднёвымі наваколлямі Слуцка ці Любані, землях смалічы асядалі на сталае жыхарства. Аб гэтым сведчыць назва Смалічы, якую носяць адразу тры населеныя пункты ў Нясвіжскім, Капыльскім і Клецкім раёнах.

У старажытных славян сярод іншых асабовых імёнаў існавалі і такія – Смалідуб і Смалібор. У паўсядзённым ужытку яны звычайна спрашчаліся, усякаліся, як і большасць імёнаў нашага часу, і атрымлівалі форму Смалята ці Смалява. Нейкі чалавек па імені Смалява (Смалідуб ці Смалібор) з'явіўся заснавальнікам пасялення, якое вядомае сёння як горад, раённы цэнтр Смалявічы. Гэты населены пункт згадваецца ў пісьмовых крыніцах толькі з XVI ст., аднак назва яго сведчыць аб верагодных больш ранніх вытоках.

Сярод прозвішчаў на Беларусі вядомыя Смалян і Смалянаў. Далёкія продкі носьбітаў гэтых прозвішчаў былі выхадцамі з асяроддзя смалян. Дарэчы, галоўным цэнтрам авангардных славянскіх груп смалян-смалічоў быў Смаленск, назву якога вучоныя якраз і тлумачаць ад славянскага этноніма смаляне.

Некалькі найменняў населеных пунктаў Міншчыны, знешне падобных на Смалічы і Смалявічы, звязаны тым не менш з іншым часам і з іншымі, больш новымі рэаліямі. Так, вёска Смалёўшчына Валожынскага раёна з усімі ўгоддзямі вакол яе належала калісьці гаспадару па мянушцы Смаль. Мянушкі Смаль і Смоль надаваліся смуглым, чарнявым людзям. Ад мянушкі Смоль утварылася назва вёскі Смоліна Барысаўскага раёна.

Вёска Смалінёц Уздзенскага раёна, хутчэй за ўсё, атрымала найменне ад смаловага (хвойнага) лесу. Вёскі Смаляры Барысаўскага і Уздзенскага раёнаў заснавалі сапраўдныя смаляры-смалакуры, гэта значыць тыя, хто працаваў у смалярні.

У Чэрвенскім раёне ёсць вёска Смоленка, на месцы якой у мінулым, відаць, стаялі смоленкі – печы для гонкі смалы і дзёгцю. У беларускіх гаворках для абазначэння такіх печаў існуюць таксама словы смалярка, смалянка, смалячка, смольня і смалякоўня.

Вытворчасць смалы і дзёгцю сярод смаловага лесу, па ўсёй верагоднасці, абумовіла ўзнікненне і назвы Смольніца, якую носяць дзве вёскі – у Лагойскім і Смалявіцкім раёнах.

***Аляксандр РОГАЛЕЎ,***
***доктар філалагічных навук***

# Космас Кітоў з Агароднікаў

*Няма такога энцыклапедычнага навуковага даведніка, у якім не было б яго прозвішча. Барыс Уладзіміравіч Кіт – акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, заслужаны прафесар Вашынгтонскага Мерылендскага ўніверсітэта, доктар філасофіі ў галіне матэматыкі і гэтак далей. Яго імя ўкладзена ў «капсулу часу» лепшых вучоных астранаўтыкі, якая знаходзіцца ў бібліятэцы Роберта Говарда (ЗША) і якая будзе адкрыта праз 500 гадоў.*

Ён даследаваў магчымасць ужывання вадкага вадароду, а затым выдаў першы ў свеце падручнік аб усемагчымых тыпах ракетнага паліва.

А нарадзіўся вучоны 6 сакавіка 1910 года ў Санкт-Пецярбургу, куды яго бацька прыехаў на заробкі з беларускай вёсачкі Агароднікі, якая з часам злілася з Карэлічамі.

У 8-гадовым узросце хлопчык вярнуўся на радзіму бацькі. Зрэшты, калі хтосьці захоча болыш падрабязна даведацца пра гэта, дастаткова пазнаёміцца з успамінамі вучонага «Цярністы шлях», запісанымі Васілём Быкавым летам 2001 года ў Франкфурце-на-Майне, дзе цяпер жыве вучоны.

Мяне цікавіла, які ён зараз, гэты 94-гадовы, ганаровы з усіх ганаровых вучоных? І вось сустрэча. Размаўляем аб жыцці...

**– Барыс Уладзіміравіч, у Вас такі малады голас і светлая галава. Можа, адкрыеце сакрэт маладосці?**

– Шмат прычын: перш за ўсё Воля Госпада (ці лёс), беларуская генетыка, цікавае інтэлектуальнае жыццё, спорт (футбол, валейбол, лыжы, гімнастыка), чыстае сумленне...

**– Ці займаецеся зараз якой-небудзь грамадскай дзейнасцю? І наогул, у якіх клопатах праходзяць Вашы дні?**

– Заўсёды займаўся і цяпер таксама.

Сёння належу да нямецкай арганізацыі, якая займаецца культурным абменам паміж Беларуссю і Германіяй і якая заснавала прэмію імя Барыса Кіта. Яна выдаецца штогод найбольш вядомым культурным дзеячам Беларусі, якія працуюць на карысць беларускага народа.

**– Ці адрозніваюцца маладыя людзі мінулага стагоддзя і гэтага?**

– Вельмі, цяперашнія цягнуцца да задавальнення сваіх фізічных жаданняў. А наша пакаленне было больш ідэалістычным, рамантычным і верным сваёй Айчыне.

**– Калі Вы апынуліся ў фірме, якая займаецца ракетнымі даследаваннямі?**

– У ЗША ў 50-я гады пачаўся неверагодны рух у ракетных даследаваннях у адказ на запуск савецкага спадарожніка. Мая сённяшняя фірма «Раквэл інтэрнейшэнел Лос-Анджэлес» мела патрэбу і шукала адпаведных вучоных – матэматыкаў, фізікаў, хімікаў. Асабліва матэматыкаў, ад работы якіх звычайна пачынаецца распрацоўка розных праектаў. Мне пашчасціла сустрэцца з адным вучоным гэтай фірмы. Ён мяне як матэматыка ўстроіў там



на працу, што было пачаткам маёй кар'еры астранаўта. Цяпер ён лічыць мяне «адным з першапраходцаў амерыканскай касманаўтыкі».

**– Паколькі Вы галоўны распрацоўшчык ракетнага паліва, то адкажыце: на якім паліве чалавецтва паляціць на Марс?**

– Поўнасцю ці па частках – цяперашні вадкі вадарод. Ці ядзерпае паліва, ці яшчэ штосьці новае, больш моцнае, што павінна прайсці яшчэ доследы працэс.

**– Якая падзея XX стагоддзя ўразіла найбольш за ўсё?**

– Падарожжа амерыканцаў на Месяц! Шэсць разоў – і ўсе паспяховых, кожны раз па тры астранаўты высаджваліся і гулялі па паверхні Месяца!!

**– Дружба з якім чалавекам аказала на Вас найбольшы ўплыў?**

– Мне даводзілася сустракацца з многімі знакамітасцямі, Нобелеўскімі лаўрэатамі. Але найбольш цеснае супрацоўніцтва меў з Тэадорам фон Каманам, які лічыцца сёння бацькам сучаснай аэранаўтыкі і тэарэтычным патрыярхам астранаўтыкі.

**–Дарэчы, а чаму Вы пераехалі з Амерыкі ў Франкфурт-на-Майне?**

– Пасля выхаду на пенсію ў Вашынгтоне прыняў запрашэнне быць прафесарам матэматыкі ў Германіі, дзе і працую больш за дваццаць гадоў, а пазней тут пачаў жыць (сустрэў спадарожніцу жыцця Тамару Казевіч).

**– Якім вобраз Беларусі бачыцца з Еўропы?**

– Бедны вобраз краіны з мінулых стагоддзяў. Нашу Радзіму адагналі на сто гадоў назад...

**– Калі Вы чуеце слова «Беларусь», якія асацыяцыі выплываюць найперш?**

– Цудоўная краіна, прыгожая, добрая, таленавітыя, гасцінныя людзі. Краіна, якая падарыла свету шмат знакамітасцяў: Касцюшку, Шастаковіча, Міцкевіча, Быкава... На жаль, краіна, прыгавораная на далейшыя пакуты.

**– За граніцай шмат беларусаў?**

– Вельмі. Але пагубляных па ўсяму свету ў малых колькасцях

**– Калі Вы ў апошні час смяяліся ад душы?**

– Цяжка сёння смяяцца, калі перад усімі стаіць пагроза тэрарызму. Смяяўся раней, калі чытаў Зошчанку і глядзеў некаторыя амерыканскія фільмы.

**– Вы верыце ў існаванне іншых цывілізацый?**

– Цяжка сказаць. Я не маю дастаткова поўнай інфармацыі, каб сказаць «так» ці «не».

**– Аб чым трэба папярэдзіць чалавецтва ў першую чаргу?**

– Аб'яднацца ў барацьбе з ісламскім тэрорам.

**– Як уладкаваліся ў жыцці Вашы дзеці?**

– Вельмі добра, у Амерыцы.

**– Месца на Зямлі, якое больш за ўсё мілей?**

– Ёсць шмат прыгожых месцаў на планеце, але для мяне – Каліфорнія і Гавай.

**– Вы чагосьці не паспелі зрабіць?**

– Здаецца, зрабіў усё, што трэба было зрабіць.

**– Барыс Уладзіміравіч, у Вас найчыстая беларуская мова...**

– Калі вы ўбіраеце яе з малаком маці, калі юнацтва праводзіце ў акружэнні беларускамоўных равеснікаў, то яна ў вас жыве да канца дзён. Усе астатнія мовы толькі накладваюцца на яе. Яна дрэмле ў вас, а потым, калі трэба, выплывае без усялякіх намаганняў. Так, я амерыканец, але па сутнасці – беларус.

***Аляксандр ХАЛІМОН,***
***«Народная воля»***
***Пераклад на беларускую мову***




## 1579

# Заснаванне Віленскага ўніверсітэта

***Гэта была першая вышэйшая навучальная ўстанова на абшары Вялікага княства Літоўскага. Да яе заснавання спрычыніўся ордэн езуітаў, які стварыў самую передавую для свайго часу сістэму адукацыі ў Еўропе.***

***Першым рэктарам адчыненай паводле прывілею вялікага князя Сцяпана Батуры Віленскай акадэміі стаў Пётра Скарга, знакаміты каталіцкі прапаведнік, пісьменнік і палеміст, які, дарэчы, добра валодаў беларускай мовай і напісаў на ёй шэраг твораў.***

Напачатку Віленская альма-матэр мела тэалагічны і філасафічны факультэты, а з 1641 года – і юрыдычны. У 1586 годзе пры акадэміі была адчынена друкарня.

Ад 1773 года, пасля пастановы папы рымскага пра скасаванне ордэна езуітаў, акадэмія перайшла пад кіраўніцтва Адукацыйнай камісіі (па сутнасці, першага ў Еўропе міністэрства адукацыі) і ў 1781-м была пераўтворана ў Галоўную школу Вялікага княства Літоўскага. Паводле звестак універсітэцкага архіва, ад 1583 да 1781 года вучоныя ступені былі нададзеныя тут 4076 асобам.

У 1803 годзе старажытная школа стала называцца імператарскім Віленскім універсітэтам. На той час у ім існавалі факультэты літаратуры і вольных навук, маральных і палітычных навук, медычны і фізіка-матэматычны. Універсітэт быў цэнтрам Віленскай навучальнай акругі.



Сцяпан Батура засноўвае Віленскі ўніверсітэт
(з карціны Вінцэнта СМАКОЎСКАГА, XIX ст.)

На працягу ўсёй яго гісторыі значную частку студэнтаў і выкладчыкаў Віленскага універсітэта складалі выхадцы з беларускіх земляў. У гэтым агмені навукі чыталі лекцыі прапаведнік і красамоўца Пётра Скарга; славуты навалацінскі паэт, філосаф і тэарэтык літаратуры XVII стагоддзя Мацей Казімір Сарбеўскі; ягоны сучаснік, выбітны знаўца рыторыкі Жыгімонт Лаўксмін; беларускі асветнік і астраном Марцін Пачабут Адляніцкі; польскі гісторык, аўтар крылатага заклiку паўстанцаў 1830 года «За нашу і вашу свабоду!» Іаахім Лялевель ды іншыя навукоўцы з еўрапейскай вядомасцю. Сярод гадаванцаў універсітэта – Сімяон Полацкі, выдатны польскі паэт Юльюш Славацкі, летувіскі гісторык Сіманас Даўкантас, адзін з першых даследчыкаў заканадаўчых і летапісных помнікаў Беларусі Ігнат Даніловіч... Віленскімі студэнтамі былі Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, якія ўваходзілі ў разгромленыя царскай паліцыяй таемныя таварыствы філаматаў і філарэтаў.



Т. Нарбут – адзін з першых выпускнікоў універсітэта

У першай трэціне XIX стагоддзя пры Віленскім універсітэце дзейнічалі мастацкія кафедры гравюры, скульптуры, жывапісу і малюнка, дзе студэнты атрымлівалі падрыхтоўку для паступлення ў акадэміі мастацтваў. Тут выкладалі вядомыя жывапісцы і графікі Францішак Смуглевіч, Ян Рустэм, скульптар Казімір Ельскі. Выхаванцамі Віленскай мастацкай школы былі беларускія мастакі Язэп Аляшкевіч, Валянцін Ванькові́ч, Іван Хруцкі, Напалеон Орда, Генрых і Вікент Дмахоўскія...

Пасля прымусовага далучэння Беларусі да Расейскай імперыі універсітэт быў магутным асяродкам духоўнай апазіцыі каланізатарам. Шэраг віленскіх выкладчыкаў і студэнтаў узялі чынны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1830–1831 гадоў. Гэта адыграла вызначальную ролю ў закрыцці універсітэта царскімі ўладамі ў 1832 годзе.

На аснове былых універсітэцкіх факультэтаў былі створаны Медычна-хірургічная і Духоўная акадэміі, але праз дзесяць гадоў існавання першую перавялі ў Кіеў, а другую – у Пецярбург.

Вільня на гравюры пачатку XVI стагоддзя

**Уладзімір АРЛОЎ**





# Першы збор звычаяў і законаў,

## або Не толькі 475 гадоў таму нашы продкі ўсвядомілі: трэба мець сваю Канстытуцыю, ведаць яе і шанаваць

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

### Перадумовы

Пагроза агрэсіі ў 1229 годзе з боку Тэўтонскага ордэна, у 1237 – Лівонскага, прыкладна з гэтага часу мангола-татарскае нашэсце, разгром Батыем сённяшніх расійскіх, украінскіх і польскіх зямель і адсутнасць з іхняга боку супраціву былі для нашых продкаў не толькі выпрабаваннем, але і гістарычным шанцам, а паспрыялі ўтварэнню новай еўрапейскай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага. На думку Міколы Ермаловіча і іншых, гэта адбылося прыкладна ў 1246 годзе, калі, магчыма, пасля смерці тутэйшага князя Ізяслава і адсутнасці яго сыноў у цяперашні Навагрудак быў запрошаны на княжанне Міндоўг з летапіснай Літвы – зямель паміж Мінскам, Маладзечнам, Навагрудкам і Слонімам. Пры княжанні Міндоўгавага сына Война́лка (1264–1267) ВКЛ пачало ўмацоўвацца за кошт далучэння новых зямель, расло, у тым ліку і «асваеннем» часткова рускіх ды ўкраінскіх, пры ўладарстве Шварна (1267–1270), Трайдзеня (1270–1282), Віценя (1293–1316), Гедзіміна (1316–1341), а ўжо пры нашчадку Гедзімінавічу, Альгердзе (час княжання 1345–1377), стала адной з буйнейшых дзяржаў у Еўропе. Княства рашуча і годна стрымлівала крыжацкі націск, а ў 1362 г. у бітве каля Сініх водаў нанесла першае адчувальнае паражэнне грозным мангола-татарскім ордам, забрала ад іх многія заняволеныя імі (сённяшнія ўкраінскія) землі, не дапусціўшы на сваіх землях ніякага іга.



Вялікакняжацкая даравальная грамата давыд-гарадоцкаму баярыну. 1524 г.

Прыкладна ніжэйназваная прычына (на працягу 1345–1392 гадоў крыжакі ўчынілі 96 ваенных паходаў на землі Літвы і Беларусі) змусіла вялікага князя ВКЛ Ягайлу пайсці ў выніку Крэўскай уніі на саюз з Польшчай, якая, ратуючыся ад крыжакоў і асцерагаючыся моцы ВКЛ, папрасіла яго. У выніку аб'яднання гэтых дзяржаў крыжакі ў 1410 годзе ў Грунвальдскай бітве былі разгромлены (як вядома, удзел у бітве бралі таксама татарская конніца (татары ад сваіх жа супернікаў шукалі абароны ў Вітаўта); смаленскія палкі і, трэба аддаць ім належнае, змагаліся па-геройску.

Яшчэ Востраўскае пагадненне 1392 года гарантавала ВКЛ аўтаномію, а Вітаўт прызнаваўся яго пажыццёвым вялікім князем (гаспадаром). Ён мог весці самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку, пашырыў дзяржаву, атрымаў для яе выйсце і ў Чорнае мора, а пазней, у 1429 і 1430 гадах рабіў усё магчымае, каб выйсці з саюзу з Польшчай і дабіцца для ВКЛ каралеўства. І быў блізкі да гэтага, каб не польскія паны, якія перахапілі па шляху асвечаную ў Рыме для Вітаўта карону. Але ўсё роўна ў ВКЛ захоўваўся свой грамадска-палітычны лад (феадалы – шляхта, людзі простага стану, і да сярэдзіны XV ст. большасць апошніх была вольная, давала «падарункі» і даніну да ўвядзення паншчыны), свае органы кіравання, войска, казна. Развіваліся гарады (у XIV ст. іх на Беларусі было больш за 40), а ў іх – розныя рамёствы і гандаль, будаваліся складаныя па архітэктуры замкі (Навагрудак, Крэва, Ліда, Мір); у XVI ст. было больш за 200 мястэчак; да сярэдзіны XVII ст. на беларускіх землях было 467 гарадоў і мястэчак, што не можа не сведчыць пра высокі эканамічна-культурны стан краю. З 1390 года (Брэст) пачало дзейнічаць магдэбургскае права, што давала свае прывілеі самакіравання, пэўнай дэмакратыі. Развіваліся філасофская і грамадска-палітычная думка, кнігадрукаванне (Скарына, М. Гусоўскі, С. Будны), асвета і культура (беларуская мова ў ВКЛ была дзяржаўнай да 1699 года), мастацтва (архітэктура, скульптура, жывапіс, графіка, музычнае і тэатральнае мастацтва).

### Літоўскі (беларускі) летапіс 1446

У яго аснове – запісы, якія пачалі весціся каля 1430 года на аснове ранейшых запазычаных і тутэйшых крыніц пра гісторыю ўсходніх славян і Літвы ад сярэдзіны IX да сярэдзіны XV ст. Бадай, у аснове нацыянальнай дзяржаўнай ідэі, афіцыйнай гісторыі кожных народа і дзяржавы шмат загадкавага, легендарнага, але тым не менш – гэта адзнака іхняга ўсведамлення сваёй ролі, ідэалогіі, сталасці, будучыні.

Усведамлялі гэта і ў ВКЛ – «Пахвалой Вітаўту» і «Летапісам вялікіх князёў літоўскіх»: Вітаўта – як буйнейшай дзяржаўнай і палітычнай, мудрай асобы таго часу, які самаахвярна і мужна паўстаў супраць паглынання ВКЛ, не раз будучы на валасок ад смерці, непахісна змагаўся за яго ўмацаванне, а «Летапіс» – як радавод сваіх дзяржаўцаў. Быў закладзены і яшчэ адзін важны захад – апярэдзіць Маскоўскую дзяржаву і ўзяць на сябе пераемнасць з гісторыяй Кіеўскай Русі і ў некаторай ступені збіральніцтва пад сваім скіпетрам усходніх славян. Пасля той летапіс стаў падставай для напісання «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», Хронікі Быхаўца і іншых летапісных крыніц, што не толькі і не проста падняло ўплыў беларускай дзелавой пісьменнасці і, несумненна, паўплывала на стварэнне Статута 1529 года. Праўда, «Летапіс» пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII ст. стаў даступны для азнаямлення з ім грамадскасці, вучоных толькі ў 1823–1824 гадах пры дапамозе І. Даніловіча.

### Звычаёвае права

Яно на Беларусі ажыццяўлялася ад глыбокай старажытнасці да сярэдзіны XV ст. і мела характар няпісаных прававых нормаў, што ішлі «ад дзядоў і бацькоў».



Выводъ Ипочатокъ

Старонка «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»

У кожным старажытным вялікім і малым княстве яно мела свае асаблівасці, у адпаведнасці са сваімі традыцыямі і кансерватызмам. Вялікая ўвага ўдзялялася боскасці заведзенага ладу, не дапускаліся розныя «ерасі»– нават для князя. Размяркоўваліся рамкі, нормы для кожнага класа, сацыяльнай і нацыянальнай групы. Падкрэслівалася бяспраўе халопаў, чэлядзі нявольнай. Раўнапраўе вольных людзей было ў тым, што яны маглі ўдзельнічаць на вечавых сходах, маглі быць абраныя ў органы кіравання, неслі роўную павіннасць, у тым ліку і вайсковую.

Звычаёвае права магло быць асновай для вырашэння ўлады князя і ўмоў, парадку ўступлення яго на пасаду (асабліва тады, калі князь быў запрошаны; калі яго пэўны час не было, як у Полацку ў сярэдзіне XIII ст., то дзяржаўныя справы вырашалі выбраныя мужы і веча, на якое дапускаліся ўсе вольныя. У XV ст. ужо многае вырашалася на сеймах, сейміках шляхты). Звычаёвае права прадугледжвала назначэнне ўладных (пасаднік, тысяцкі, цівун) і кантроль за імі. Калі ўжо ў ВКЛ замест княстваў узніклі ваяводствы, паветы, воласці, то службовыя асобы пачалі назначацца цэнтрам.

Звычаёвае права рэгулявала асноўныя грамадзянска-прававыя адносіны – дзяржаўныя, ваенныя павіннасці насельнікаў, рознага тыпу спрэчкі, маёмасныя пытанні – найбольш доўга захоўвалася ў шлюбна-сямейных адносінах, дзе мелі вялікае значэнне такія даўнія звычаі і абрады, як сватанне, агледзіны, заручыны, шлюбаванне і вяселле. Прававыя адносіны наступалі пасля заручын. Узрост пашлюбаваных не вызначаўся, царкоўныя правілы дазвалялі дзяўчатам уступаць у шлюб з 12–14 гадоў, хлопцам – з 14–15 (пазней паўналецтва лічылі больш узроставым). Рэгуляваліся адносіны ў тых сем'ях, дзе муж альбо жонка былі бяднейшыя ці багацейшыя, што часамі пры знікненні пачуццяў дазваляла ім скасаваць шлюб альбо прымаць сваё рашэнне наконт маёмасці сваім дзецям. За крымінальнае злачынства над жанчынай павышалася адказнасць. Асобае месца ў сістэме звычаёвага права мелі нормы копнага права, якія на Беларусі мелі моц ажно да XVIII ст. І пасля рэформы 1861 года валасныя сялянскія суды яшчэ часамі карысталіся сваёй, мясцовай «памяццю» (копны суд – суд сельскай і гарадской грамады ў ВКЛ. Разглядаў пераважна справы простых людзей па зямельных спрэчках, дробных крадзежах, сварках, абразах, прычыненых шкодах, чарадзействе і г. д. Суддзямі маглі быць тутэйшыя гаспадары. Пакрыўджаны крычаў («падымаў гвалт»), і ўсе сталыя, хто чуў лямант, павінны былі бегчы да месца здарэння і збіраць копны суд на капавішчах – спецыяльна адведзеных для гэтага месцах. За ўцекачом ішлі «па гарачым следзе», на чужой зямлі прасілі «паганяць следам» тых гаспадароў, хоць тыя часамі пазбаўляліся ад лішніх клопатаў і «гналі» бежанца за свае межы. Адпетага злачынцу маглі пакараць нават смерцю. За копным судом назіралі пасланцы ад пана альбо ад дзяржаўных улад.

### Судзебнік 1468

Ён – першая пісьмовая спроба ўнармаваць кодэкс крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права ВКЛ. Улічваў асновы звычаёвага права і судова-адміністрацыйнай практыкі. Напісаны на тагачаснай беларускай мове. Устанаўліваючы адзіныя для ўсёй дзяржавы віды пакаранняў за злачынствы супраць феадальнай уласнасці, улічваў індывідуальнасць кары. Падкрэслена, што дзеці могуць несці адказнасць з 7 гадоў.

Па-новаму давалася паняцце злачынства, уводзіўся артыкул, які меў аналогію закона. Быў стражэйшы падыход да ўцёкаў чэлядзі нявольнай і тых, хто хаваў яе, да злодзеяў, хоць пакаранне разглядавалася як метад папярэджвання злачынстваў. Судзебнік прадугледжваў меры супраць пашыраных тады самавольных захопаў чужой маёмасці феадаламі, галоўнае слова тут было за вялікім князем і пан-радаю. Указвалася, што ўсе насельнікі павінны клапаціцца пра належны стан дарог і мастоў.

### Статут ВКЛ 1529

Выданне Судзебніка 1468 года падказала шлях да далейшага развіцця прававой тэорыі, практыкі заканадаўчай дзейнасці, што адлюстравалася ў выданні пазнейшых Статутаў (статут з лац. *пастанова*). Першы Статут складаўся, рэдагаваўся некалькі гадоў, да 1522 года быў падрыхтаваны яго праект, але справа завяршылася толькі 29 верасня 1529 года.

Складальнікі яго пакуль што невядомыя. Ёсць думка, што адным з іх мог быць і Скарына, які меў званне і доктара права, ведаў звычаёвае беларускае права, гісторыю рымскага права і права іншых дзяржаў. У першы Статут патрапілі нормы звычаёвага права, нормы пісанага права, што былі раней у розных прывілеях (граматах) і, зразумела, яны ўлічвалі найперш патрэбы шляхты.

Гэты Статут па-новаму размежаваў нормы права паміж асобнымі галінамі, прадугледзеў пэўную сістэму, увёў новыя палажэнні, чым апярэдзіў многія еўрапейскія краіны. Ён меў 13 раздзелаў, што дзяліліся на артыкулы. Спачатку было апошніх каля 245, пазней іх дадавалася. Пад уплывам ідэй гуманізму Статут абмяжоўваў магнацкія правы, падкрэсліваў, што і бедныя людзі маюць права на сваю абарону. Вялікаму князю (што вельмі важна пасля смерці Вітаўта і Ягайлы, Ягайлавага сына, калі польскія магнаты пачалі скажаць ідэі Крэўскай уніі і пазнейшых фактаў, замахвацца на незалежнасць ВКЛ) наказвалася берагчы самастойнасць дзяржавы, не дапускаць іншаземцаў на дзяржаўныя пасады, не даваць ім маёнткаў, захоўваць існуючыя законы і выдаваць новыя толькі ва ўзгадненні з панамі-радамі. Прадугледжвалася ўдакладніць судаводства, паменшыць судовыя пошліны, ясней акрэсліць ролю адвакатаў.

Некаторыя сённяшнія нашы прававеды бачаць у тым Статуце шэраг недахопаў у юрыдычнай тэхніцы, у прыватнасці ў тым, што нормы крымінальнага права размешчаны ў некалькіх раздзелах, не вылучаны ў асобныя раздзелы нормы грамадзянскага права і г.д., што выявілася ад яшчэ недастатковага вопыту. Але «Статут 1529, – як падкрэсліваў у своеасаблівым падручніку «Кароткі нарыс гісторыі дзяржава і права Беларусі» (Мн., «Універсітэцкае», 1992, с. 165) вядомы беларускі правазнавец Я. Юхо, – мае важнае значэнне і як помнік культуры і мовы беларускага народа. Напісаны на беларускай мове, ён дае магчымасць паўней вывучыць літаратурны стыль, лексіку і лад дзяржаўна-прававой тэрміналогіі і мовы таго часу. Выданне Статута было велізарным, якасным скачком у справе кадыфікацыі і сістэматызацыі заканадаўства. Разам з тым Статут з'явіўся трывалай асновай для далейшага развіцця заканадаўства, ён быў галоўнай крыніцай, асновай пры падрыхтоўцы Статута 1566 года» Гэта значыць, асновай для Канстытуцыі XVI ст. – Зводу Законаў, якія кожнай дзяржаве трэба мець на высокім узроўні і якія трэба захоўваць кожнаму яе грамадзяніну як святыню.



Статут ВКЛ, 1529. Старонка з Дзялынскага спіса.

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

**P.S.** ***Пры напісанні гэтага артыкула аўтар карыстаўся вышэйназванай кнігай і іншымі навуковымі працамі Я. Юхо.***





# Старадаўнія прафесіі

**(Раздзелы з кнігі)**

## Паштар

Паштар быў не проста казённым, дзяржаўным службоўцам, які бяздумна аддаваў ліст альбо віншавальную паштоўку. Паштар быў сябрам і блізкім знаёмым, карэспандэнцыю аддаваў з жартамі і прыбабунькамі, з добрым словам. Непісьменным чытаў лісты, здаралася, тут жа пісаў адказы, разам з атрымальнікам перажываў нядобрыя весткі, разам радаваўся добрым. Яго частавалі яблыкамі і гарбатаю, давалі папіць квасу, давалі «чаявыя», часам, з нагоды свята, падносілі чарку.

Паштар усіх ведаў у твар, многіх пайменна. Ён не толькі ўручаў лісты, але і мог распавесці гарадскія навіны, нават мясцовыя плёткі. З аднымі жыхарамі горада ён быў, як кажуць, «на кароткай назе», з іншымі – строга афіцыйным.

Постаць паштара – у форменнай апратцы, са скуранай паштовай сумкай (а яна насамрэч была з тоўстай светла-карычневай скуры) – неад'емная частка гарадскога пейзажу, гарадскога жыцця. У 30-я гады XX ст. ў Лунінцы былі два паштары, абодва Санюковічы: Сава абслугоўваў Залессе, Максімільян – горад.

## Чыгуначнікі

З канца XIX ст. Лунінец (тады яшчэ сяло) стаў паселішчам чыгуначнікаў. Большасць лунінчан працавала тут – на станцыі, складзе паліва, у дэпо, розных службах, што забяспечвалі ўсю чыгунку. І спецыяльнасці ў большасці былі чыгуначныя – стрэлачнікі, машыністы паравозаў, счэпшчыкі вагонаў, аглядчыкі, качагары, памочнікі машыністаў, спісчыкі вагонаў, рамонтнікі шляхоў, кандуктары, касіры і г.д.

Пры любым ладзе – ці тое пры «цары-бацьку», «за польскім часам», пры Савецкай уладзе – многія чыгуначныя прафесіі былі прэстыжнымі, але самай-самай – праца машыніста. Весці па стальных дарогах шматтонны пасажырскі або таварны састаў, кіраваць «вогненнай машынай», захінутай клубамі пары, – мара многіх лунінецкіх хлапчукоў паваенных гадоў. І многія мару тую спраўдзілі, стаўшы вядомымі машыністамі-перадавікамі на Беларускай чыгунцы. У нашым горадзе ўтварыліся цэлыя сямейныя дынастыі паравознікаў.

І сам Лунінец увесь быў чыгуначным. Ён быў насычаны пахам вугальнага дыму з паравозных топак, крэазота, якім прапітвалі драўляныя шпалы. Лунінецкі пейзаж быў характэрны ўскінутымі ў неба бела-чырвонымі семафорамі, а жыццё горада з ранку да позняй ночы суправаджалася паравознымі гудкамі, гукі якіх былі чутныя на ўсіх ускраінах.

Больш за 70 гадоў, з 1884 года, лунінчане здужвалі адны і тыя ж чыгуначныя прафесіі. Але думка чалавека, тэхнічны прагрэс змянялі жыццё. З сярэдзіны 60-х гадоў XX ст. паступова паравозы «сыходзілі на заслужаны адпачынак», саступаючы месца цеплавозам. Прафесіі машыніста паравоза, ягонага памочніка і шэраг іншых спецыяльнасцей, раней невядомых лунінчанам-чыгуначнікам, звязаны з найноўшымі дасягненнямі на чыгуначным транспарце, з аўтаматызацыяй. Не стала стрэлачнікаў, якія пераводзілі стрэлку ўручную (не стала і саміх цяжкіх рычажных стрэлак), не стала счэпшчыкаў вагонаў і г.д. Сёння ўжо старыя семафоры, пераводныя стрэлкі можна пабачыць толькі ў Баранавіцкім музеі чыгуначнага транспарту. «Зялёную вуліцу» цеплавозам даюць светлафоры. Змена прафесій на чыгунцы, «адміранне» старых, «нараджэнне» новых прайшлі ў наш час, на нашых вачах.

Слова «прафесія» паказвае на кола спецыяльных ведаў, на асноўную галіну заняткаў чалавека, ягоную працоўную дзейнасць. Перайначыўшы вядомыя радкі, можна сказаць, што патрэбны прафесіі ўсе, прафесія кожная – важная. Адны з іх «памерлі», але зрабілі свой унёсак у жыццё грамадства людзей, іншыя «нараджаюцца» і яшчэ прынясуць сваю лепту ў развіццё. Бо прафесія, або рамяство, як кажуць людзі, – неабходнасць чалавечага жыцця.

*Леў КОЛАСАЎ*

(Пачатак у № 16)


GLOS ZYCZLIWY

I.

# Хто ён, гравёр Ілья?

У Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве мне ўдалося выявіць кіеўскае выданне 1645 года, у якім змешчаны вершаваны панегірык на польскай мове «Спрыяльны голас», прысвечаны Радзівілам. Ён аздоблены малюнкамі гравёра Ільі (прозвішча невядома), выкананымі на высокім мастацкім узроўні.

Як вядома, гербам нясвіжскіх Радзівілаў былі «Трубы», тры накіраваныя ў розныя бакі трубы, якія славілі вядомы магнацкі род. Мы бачым іх і на тытульнай гравюры выдання: яны сходзяцца ў вуснах прыгожай багіні. Акаймаваны малюнак раслінным вянком-арнаментам. А тэксты ўзяты ў рамкі.

Хутчэй за ўсё, гравёр жыў там, дзе пісаўся тэкст, – у Нясвіжы. Але падрабязнасцей пра яго асобу мы, на жаль, не ведаем.

*Вальдэмар ДЭЛЮГА, прафесар, г. Варшава*

# Ліцца ў Літве «святой» вадзе

Тут пасля нядаўняга землятрасення ў калектыўным калодзежы мястэчка Давіляй Клайпедскага раёна пачала награвацца вада. Часам яе тэмпература павышаецца да 40 градусаў.

Куры напіліся гэтай вады і перасталі несціся. Гэта незвычайная з'ява выклікала супярэчлівую ацэнку мясцовых жыхароў. Адны катэгарычна адмаўляюцца піць «адскую ваду», іншыя смяюцца над забабонамі ці сцвярджаюць, што гэта, наадварот, боскі дар для бедных, і раяць карыстацца нечаканай магчымасцю скараціць камунальныя расходы.

Геолагі і медыкі дакладнага тлумачэння гэтай анамаліі прыроды пакуль не даюць. Яны праводзяць даследаванні вады, змяненняў ў падземных залежах мінеральных структур і шукаюць прыклады аналагічных з'яў у іншых краінах. Свой канчатковы вердыкт вучоныя вынесуць пасля ўсебаковага вывучэння феномену. Аднак ужо зараз некаторыя вернікі прапаноўваюць аб'явіць калодзеж «святым».

*Паводле перыядычнага друку*



*Царква ў Цялушы Бабруйскага раёна (на пярэднім плане – магіла ўнучкі А. Пушкіна)*

*Фота Міхася КЕНЬКІ*

# Хавальнік скарбаў

***24 верасня споўнілася сто гадоў з дня нараджэння беларускага і польскага этнографа, спецыяліста музейнай справы, мемуарыста Мар'яна Пецюкевіча. З яго багатай спадчынай мне ўдалося пазнаёміцца ў час навуковай паездкі ў Торунь (Польшча).***

Мар'ян Пецюкевіч нарадзіўся ў вёсцы Цяцеркі на Браслаўшчыне ў сялянскай сям'і. Матэрыяльнай і духоўнай культурай беларусаў зацікавіўся ў гады вучобы ў Віленскім універсітэце. Потым працаваў у бібліятэцы імя Урублеўскіх (цяпер акадэмічная), дзе пазнаёміўся з Максімам Танкам, Антонам Луцкевічам, Міхасём Машарам і іншымі дзеячамі заходнебеларускай культуры, знаёміў іх з мінскімі перыядычнымі выданнямі і кнігамі. У 1940 годзе, з прыходам літоўскай савецкай улады, на яго плечы ўсклалі нялёгкія абавязкі дырэктара Віленскага беларускага музея. М. Пецюкевіч забяспечыў захаванасць яго экспанатаў у час фашысцкай акупацыі. Яго вернымі памочнікамі былі мастак Пётра Сергіевіч, літаратар Янка Шутовіч, спецыяліст па нумізматыцы Янка Бекіш, літоўскі мастацтвазнавец Уладас Дрэма.

Пасля вызвалення літоўскай сталіцы (1944 год – **«КГ»**) музей быў расфарміраваны, а яго зборы перададзены розным установам. На былога дырэктара пасыпаліся неабгрунтаваныя абвінавачванні. Пецюкевіча саслалі на пяць гадоў спачатку ў Краснаярскі край, а потым у Варкуту. Вызваліўшыся, выехаў у Польшчу, дзе яго чакалі калегі па Віленскаму універсітэту. З 1957 да 1980 года працаваў у Таруньскім этнаграфічным музеі, дзе сабраў калекцыю беларускіх народных вырабаў. Памёр этнограф у 1983 годзе. У Вільнюсе выйшла яго беларуская кніга «У пошуках зачараваных скарбаў» (1998), дзе падрабязна гаворыцца пра Віленскі беларускі музей.

У Торуні ад дачкі М. Пецюкевіча Міраславы Быблюк я атрымала ксеракопію яго рукапісу «Фрагмент маёй біяграфіі», які варты асобнай публікацыі. Акрамя таго, у архіве Торуньскага этнаграфічнага музея мне ўдалося выявіць яшчэ каля 70 рукапісаў вучонага. Сярод іх – «Вёска Цяцеркі ў Браслаўскім павеце», «Старадаўнія звычаі, абрады і вераванні ў беларусаў», «Культура браслаўскіх стараабрадцаў», «Народная творчасць, фальклор». Цяпер у Беларусі ёсць звыш 20 фотаздымкаў М. Пецюкевіча, у тым ліку і той, што рэпрадукаваны ў пачатку артыкула.

Асаблівай увагі заслугоўвае манаграфія М. Пецюкевіча пра яго родную вёску Цяцеркі. Рукапіс яе ёсць у бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Яго варта выдаць.

*Галіна ІВУЦЬ, «Голас Радзімы»*

# Музей Тышкевічаў у старажытным Лагойску

***У жыцці старажытнага Лагойска 160 з лішкам гадоў таму адбылася падзея, якая залатым радком пазначана ў гісторыі айчыннай культуры. Тады, у 1842 годзе, у велічным палацы па-над ракой Гайнай, адкуль выйшлі ў вялікі свет славутыя нашы землякі Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы, быў адкрыты першы ў Беларусі музей старажытнасцей. Зборы старажытнасцей былі (у Нясвіжы), а музея – не было.***

Праз колькі часу вядомы археолаг Адам Кіркор пісаў: «Па колькасці прадметаў і высокім навуковым значэнні музей гэты можна параўнаць толькі з Віленскім і Кракаўскім пры Ягелонскім універсітэце». І гэта было сказана пасля таго, як стараннямі Яўстафія Піевіча ў 1855 годзе быў заснаваны Віленскі музей старажытнасцей, куды трапіла значная частка лагойскіх калекцый.

Стварэнню ж лагойскага музея папярэднічала вялікая, нястомная, сапраўды падзвіжніцкая праца братоў Тышкевічаў, якія былі аб'яднаны агульнай справай, прысвяцілі свае сілы і здольнасці глыбокаму вывучэнню мінуўшчыны роднай зямлі. Сферай іх дзейнасці сталі археалогія і этнаграфія, краязнаўства і фалькларыстыка.

Канстанцін Піевіч Тышкевіч (1806–1868) на працягу жыцця даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў у заходняй частцы Міншчыны, у тым ліку на Лагойшчыне, склаў першыя тапаграфічныя карты іх. Вынікі даследаванняў падрабязна апісваў і публікаваў у расійскіх і польскіх выданнях. У 1856 годзе арганізаваў экспедыцыю па рацэ Віліі, што дало магчымасць сабраць багаты этнаграфічны матэрыял. Потым, у 1871 годзе, апісанне падарожжа выйшла ў Дрэздэне асобнай кнігай.

Як і брат, аддана служыў навуцы Яўстафій Тышкевіч (1814–1878). Ён таксама даследаваў курганы на Міншчыне і ў Літве. Сярод яго шматлікіх навуковых прац – грунтоўнае даследаванне «Апісанне Барысаўскага павета», дзе змешчаны разнастайныя звесткі па эканоміцы, культуры, этнаграфіі.

Матэрыялы, назапашаныя за многія гады пошукавай, краязнаўчай, даследчыцкай працы Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў, і склалі экспазіцыю адкрытага ў Лагойску музея. Тут былі сабраны, напрыклад, звыш тысячы старажытных грамат, рукапісных матэрыялаў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, калекцыя медалёў і манет (больш за 1 100 экземпляраў). Экспанавалася і багатая калекцыя старадаўняй зброі, у ліку якой была шпага Пятра I і два мячы з мініяцюрнай выявай караля Стэфана Баторыя. Захоўваліся кальчугі, мундзіры часоў вайны 1812 года. У аддзеле мастацтваў мелася больш за 200 карцін і эскізаў беларускіх, рускіх і польскіх мастакоў.

Партрэты прадстаўнікоў 12 пакаленняў роду Тышкевічаў займалі ўсю сталовую залу палаца. Выключную каштоўнасць сярод мастацкіх вырабаў меў вялікі крыж са срэбра і золата, які польскі кароль Сігізмунд І Аўгуст падарыў касцёлу мястэчка Гайна ў 1514 годзе.

На вялікі жаль, прыходзіцца канстатаваць: усё гэтае багацце назаўсёды страчана для Лагойска. Лагайчан непакоіць, што ў сучасным райцэнтры амаль нішто не нагадвае пра яго былую славу. Хіба што рэшткі сцяны правага крыла палаца ды земляны вал, які ўзвышаецца наўсцяж старажытнага замчышча...

Выправіць гэтую гістарычную несправядлівасць і прызваны будзе новы гісторыка-краязнаўчы музей, работа над стварэннем якога цяпер актыўна вядзецца. Плануецца, што тут будзе абсталяваны мемарыяльны пакой, прысвечаны братам Тышкевічам. Для таго ж, каб на належным узроўні ўшанаваць іх памяць, паказаць будучым наведвальнікам веліч, маштабнасць здзейсненага гэтымі рыцарамі навукі, спатрэбіцца сабраць вялікую колькасць экспанатаў.

Праўда, ужо многае ўдалося займець. І перш за ўсё, дзякуючы нашаму земляку Уладзіміру Палупанаву, які перадаў каштоўныя матэрыялы пра Тышкевічаў. Ёсць некалькі архіўных дакументаў, фотаздымкаў, археалагічныя знаходкі на месцы ранейшага палаца Тышкевічаў каля вёскі Заазер'е, публікацыі з выданняў розных часоў. Гэтага яўна недастаткова, а таму пошукі будуць працягвацца.

*Спадзяёмся, што ў высакароднай справе нам паспрыяюць, акажуць дапамогу прадстаўнікі беларускай дыяспары. Магчыма, адгукнуцца на гэтую публікацыю і нашчадкі роду Тышкевічаў, прыслухаюцца да нашай просьбы даслаць для лагойскага музея дакументы і рэчы, друкаваныя выданні, што датычаць жыцця і дзейнасці як саміх Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў, так і іншых прадстаўнікоў славутага роду. Любое канкрэтнае праяўленне ўвагі да распачатай справы па стварэнні лагойскага музея, адкрыццё якога плануецца прымеркаваць да 200-годдзя з дня нараджэння К.П. Тышкевіча (2006), будзе намі ўспрынята з вялікай удзячнасцю.*

*Наш адрас:*
***223110, вул. Савецкая, 13, г. Лагойск Мінскай вобласці.***

***Віктар НЕСЦЯРОВІЧ, «Голас Радзімы»***

# Стваральнік трох музеяў

*Віктар Рыгоравіч Арлоў вядомы многім мар'інагорцам, калі не большасці жыхароў горада, як настаўнік, стваральнік трох музеяў: «Гісторыі Ленінскага камсамола» ў мар'інагорскай СШ № 1, двух музеяў у СШ № 3 – «Героі і подзвігі» і «У. І. Леніна». Ужо 10 гадоў, як В. Р. Арлоў пайшоў з жыцця.*

Адышоўшы на некаторы час у цень, музеі ізноў адрадзіліся – цяпер ужо ў выглядзе філіяла раённага краязнаўчага музея. Безумоўна, калі не сёння, то заўтра застанецца ў забыцці шматгадовая работа Віктара Рыгоравіча Арлова па збіранні матэрыялаў, якія былі прысвечаны лёсу У. І. Леніна. Яно і зразумела. Тая пафаснасць, з якой не адно пакаленне савецкіх людзей ставілася да Леніна, многіх яго паплечнікаў, была і часткай псеўдажыцця, своеасаблівай прыдумкай. І... нашым жыццём.

Сёння няма сумненяў, што Ленін з'яўляецца яркім гістарычным персанажам. І ён асабіста, і ўзведзеныя ім на новую прыступку сацыялістычны, камуністычны рух – хіба ж гэта не прадмет гісторыка-краязнаўчай цікаўнасці ў Беларусі?..

Менавіта зыходзячы з гэтага меркавання і варта агледзець, утрымаць у памяці зробленае Віктарам Рыгоравічам Арловым. А яшчэ ж, дадайце да яго зацікаўленасці гісторыяй КПСС, гісторыяй рэвалюцыі, міжнароднага камуністычнага руху і велізарную работу мар'інагорскага настаўніка па вывучэнні падзей на Пухаўшчыне ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941–1945 гадоў. Дзесяцігоддзямі рупліва і шматгранна працаваў ён на ніве асветніцтва, гістарычнай адукацыі сваіх землякоў-мар'інагорцаў.

Калі гаварыць не пра абстрактных вучняў Віктара Рыгоравіча, а пра людзей, хто так ці інакш звязаў сваё жыцце з гісторыяй, грамадскімі навукамі, з грамадска-палітычнай работай, то можна ўзгадаць асоб вядомых, яркіх навукоўцаў і палітыкаў, якія засведчылі аб сабе ў Мінску і Маскве. Сярод іх і былы міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Падгайны, журналіст-міжнароднік Анатоль Рэпін.

... Мы трымаем у руках вялікага памеру агульны сшытак. У ім – запісы, зробленыя добра вядомым круглым арлоўскім почыркам. У асноўным – дзённік першай паловы 1969 года. Усяго шэсць месяцаў з многіх гадоў краязнаўчай, грамадскай, настаўніцкай работы Віктара Рыгоравіча Арлова. Цікавыя гэтыя крыху пажоўклыя старонкі яшчэ і тым, што перадаюць подых часу, расказваюць пра побыт, сямейныя справы, прыадчыняюць перад намі заслону над падзеямі болей як трыццацігадовай даўніны.

А сустрэч з ветэранамі рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, Вялікай Айчыннай, пісьменнікамі, дзеячамі мастацтва ў трэцяй мар'інагорскай школе адбылося некалькі сотняў за гады работы Віктара Рыгоравіча Арлова. Кампазітары Валерый Іваноў, Ігар Лучанок, пісьменнікі Мікалай Аляксееў, Іван Новікаў, Захар Бірала, Максім Танк, Пімен Панчанка, Максім Лужанін, журналісты Анатоль Рэпін, Юрый Іваноў – у кожнага з іх свае стасункі з музеямі СШ № 3.

Думаецца, што зараз філіял раённага краязнаўчага музея СШ № 3 мог бы насіць імя Віктара Рыгоравіча Арлова. Настаўнік – у шэрагу самых актыўных краязнаўцаў Пухаўшчыны. Толькі ў тым жа 1969 годзе ён удзельнічае ва Усесаюзнай краязнаўчай канферэнцыі ў Ленінградзе, арганізоўвае і праводзіць краязнаўчую канферэнцыю ў раёне. Віктар Рыгоравіч увасабляў класічны тып настаўніка-краязнаўца. Ён збіраў матэрыялы, агучваў іх у сваёй рабоце на ўроках, стварыў музей, выступаў з лекцыямі і пісаў у самыя розныя друкаваныя выданні. Толькі з 1960 года і да свайго пяцідзесяцігоддзя (1972) ён прачытаў па ленінскай тэматыцы каля 800 лекцый і дакладаў. Штогод – да 30–40 публікацый у раённай газеце. Раённая бібліятэка выдала бібліяграфічны даведнік, дзе ўлічылі ўсе выступленні В. Арлова ў «Сцягу працы» («Пухавіцкіх навінах»). Іх ажно 815! А Віктар Рыгоравіч расказваў пра музеі, пра школьныя мерапрыемствы, дзяліўся сваім педагагічным вопытам яшчэ і з чытачамі многіх рэспубліканскіх газет і часопісаў. Вельмі важна (і гэтая думка гучыць не ўпершыню) аб'яднаць намаганні, ды выдаць хаця б невялікую гісторыка-краязнаўчую кніжачку Віктара Рыгоравіча Арлова.

Можа быць, увага да памяці пра Арлова дапаможа аб'яднацца пухавіцкаму настаўніцтву і ў такой справе, як арганізацыя і правядзенне краязнаўчай навукова-практычнай канферэнцыі. Пагадзіцеся, якім бы актыўным ні быў рух краязнаўцаў-адзінак, ён усё ж нічога па вялікім рахунку не значыць, калі следам да шырокага даследавання гісторыі края не спыняцца настаўнікі і вучні. І справа ўшанавання настаўніка-краязнаўца ў асобе Віктара Рыгоравіча Арлова, магчыма, паспрыяла б росту аўтарытэту краязнаўчай работы, краязнаўчай ініцыятывы ў школах Мар'інай Горкі Пухавіцкага раёна.

*Барыс МУХА,*
*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

***На Беларусі Аляксандра Антонавіча Сянкевіча (1884–1939) ведаюць як выдатнага грамадскага дзеяча, а ў Прымор'і яго прозвішча занесена ў спіс народных герояў грамадзянскай вайны. Але, пэўна, нямногім вядома, што гэты чалавек паслужыў прататыпам для стварэння шэрагу мастацкіх вобразаў: Алеся Садовіча ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях», Баса-Грэнкі ў яго ж п'есе «Забастоўшчыкі» і доктара Сташынскага ў рамане Аляксандра Фадзеева «Разгром».***

# Паклікаsuccessfully эпохаю

Нарадзіўся А. А. Сянкевіч 20 студзеня 1884 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Мінскага павета (цяпер Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці). Пасля народнага вучылішча паступіў у 1898 годзе ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і ў 1902 годзе скончыў яе. Два гады працаваў настаўнікам у Старых Дарогах, а потым быў пераведзены ў Мікалаеўшчынскую школу.

Вялікі ўплыў на светапогляд маладога настаўніка аказала знаёмства з дзейнасцю і творамі рускіх сацыял-дэмакратаў, а таксама з рэвалюцыйна настроенымі педагогамі. Аляксандр Сянкевіч добра ўсведамляў неабходнасць саюза настаўніцтва, які б ясна акрэсліў далейшы шлях дзейнасці педагогаў, звязаў бы іх, паводле Я. Коласа, «агульнаю ідэяю, ідэяю змагання за вызваленне з грамадзянскай і палітычнай нявολі, за поўную рэформу школы, арганічна злучыўшы яе з патрэбамі жыцця». Перадавыя настаўнікі наладзілі сувязь паміж сабою і марылі стварыць творчае аб'яднанне. Вось імёны тых, хто ўпершыню на Беларусі даў пачатак арганізацыі настаўніцтва: Аляксандр Сянкевіч, Аляксандр Райскі, Нічыпар Янкоўскі, Хведар Калечыц, Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас), Сямён Самахвал, Уладзімір Міцкевіч, Антон Камароўскі, Адам Мілюк, Іосіф Міцкевіч, Адам Вайцахоўскі, Вікенць Віяленцій, Аляксандр Аляшкевіч, Міхаіл Пальчэўскі, Іван Лапцэвіч, Іван Фёдараў (Янка Маўр), Аляксандр Філіповіч.

Свой першы з'езд настаўнікі вырашылі правесці пасля заканчэння навучальнага года. Вечарам 8 ліпеня 1906 г. яны пачалі з'язджацца ў Мікалаеўшчыну. Сабралася каля 30 чалавек. Першае пасяджэнне адбылося на беразе Нёмана, у прыгожай мясціне Прыстанька. Старшынёй з'езда абралі Аляксандра Сянкевіча, сакратаром – Аляксандра Райскага, настаўніка Стаўпецкага мужчынскага народнага вучылішча. З'езд прыняў адозву «Да ўсіх настаўнікаў і настаўніц прыходскіх і іншых вучылішчаў», адрасаваную настаўнікам Мінскай губерні. Дэлегаты былі высачаны паліцыяй, пачаліся арышты, суды, ссылкі, расправы. А. Сянкевічу і Н. Янкоўскаму давялося эмігрыраваць у Амерыку.

Першы настаўніцкі з'езд не прайшоў бясследна. Многія педагогі адчулі неабходнасць барацьбы супраць царызму і русіфікатарскай палітыкі і ўключыліся ў яе. А аднаму з удзельнікаў з'езда – Якубу Коласу – гэтая падзея асабліва глыбока запала ў душу: успаміны выкрышталізоўваліся, хвалявалі. Незвычайныя па духу і сіле, яны ляглі ў аснову твораў пісьменніка. Задума Я. Коласа паказаць складаны шлях беларускага настаўніка ад «зялёнага» семінарыста да свядомага змагара вылілася ў трылогію «На ростанях». Твор у значнай ступені аўтабіяграфічны. Асобныя падзеі, героі, час і акалічнасці дзеянняў, адлюстраваныя ў аповесцях, мелі месца ў жыцці пісьменніка, таму за мастацкім вымыслам праглядваюцца рэальнасць і біяграфічнасць таго ці іншага факта.

Першая частка трылогіі – «У палескай глушы» – была напісана амаль за год (у 1921–1922 гадах). Я. Колас па-мастацку здолеў адлюстраваць пачатак шляху маладога настаўніка. Роздум над мэтай жыцця, хісткасць пераканання, аналіз учынкаў і падзей, пошукі выйсця – усё гэта з'яўлялася тыповым для мноства настаўнікаў, якія пасля семінарыі шукалі правільную дарогу. Малюючы свайго героя ў чалавечым асяроддзі, пісьменнік з вялікім майстэрствам паказаў у рамане народ – тую сілу, што, на думку аўтара, пад кіраўніцтвам перадавой інтэлігенцыі можа змесці існуючы лад.

Я. Колас, сустракаючыся ў Мінску ў 1920-я гады з Сянкевічам і ўспамінаючы разам з ім мінулае, усё часцей звяртаецца да матэрыялаў з'езда настаўнікаў. У 1924 года з-пад яго пяра выходзіць п'еса «Забастоўшчыкі», у аснову якой пакладзены сам факт з'езда. Прозвішчы яго ўдзельнікаў аўтар замяніў мянушкамі, дадзенымі многім яшчэ ў семінарыі. І ўсё ж лёгка пазнаць за Басам-Грэнкам Аляксандра Сянкевіча, за Гарнаком – Сямёна Самахвала. Пад прозвішчам Хрушча Булыгі выступае Аляксей Аляшкевіч, Пясецкага – Аляксандр Райскі, Нічыпара – Нічыпар Янкоўскі.

П'еса «Забастоўшчыкі» пабудавана на паслядоўным раскрыцці фактаў. Характарыстыка герояў даецца праз іх дыялогі, дзеянні. Цэнтральнае месца ў творы займае гаспадар «дома крамолы і бязбожніцтва» настаўнік Бас-Грэнка. Калі іншыя (Гарнак, Лукашык) успрымаюць жартам, а то і з бояззю ідэю сходу настаўнікаў, то Бас-Грэнка, які, відаць, доўга выношваў гэтую задуму, ніколькі не сумняваецца ў патрэбнасці аб'яднання педагогаў. Ён цвёрда ўпэўнены, што «трэба склікаць з'езд, трэба самім арганізавацца і на з'ездзе вырашыць гэтыя пытанні». У вобразе Баса-Грэнкі пісьменнік паказаў не толькі ініцыятара і арганізатара настаўніцкага з'езда, але на фоне стракатай настаўніцкай масы вывеў сапраўднага барацьбіта, гатовага ў любую хвіліну ахвяраваць сваім жыццём дзеля народнага шчасця.

Адначасова пісьменнік творча і натхнёна працаваў над другой часткай сваёй трылогіі «На ростанях» – «У глыбі Палесся». Якраз у 1923–1927 гадах Я. Колас выкладаў родную мову ў Белдзяржуніверсітэце. Сам характар лрацы штурхаў яго да разваг пра ролю педагогаў, настаўнікаў у жыцці грамадства, у фарміраванні грамадскай думкі, светапогляду маладога пакалення. У аснову вобразаў Баса-Грэнкі і Алеся Садовіча (трылогія «На ростанях») лёг адзін і той жа прататып – Аляксандр Сянкевіч. І таму для нас важна, наколькі поўна і ўсебакова намаляваў пісьменнік вобраз Сянкевіча-Садовіча, як і якія рысы характару падкрэсліў, тыпізаваў.



Упершыню з Алесем Садовічам мы сустракаемся на пачатку аповесці «У глыбі Палесся». Лабановіч, прыехаўшы на лета дадому, на станцыі сустрэў свайго земляка-аднакашніка Садовіча. «Сябры шчыра абняліся. Блізка год яны не бачыліся і за гэты час значна змяніліся. Галоўным чынам змяніліся таму, што з семінарскіх шкур павылузваліся». Радасць сустрэчы заключалася іменна ў тым, што можна было выліць адзін аднаму накіпелае за год, думанае-перадуманае, выказаць трывогі, сумненні, меркаванні, падзяліцца планамі, надзеямі... Садовіч расказвае, і ў яго голасе – «ноткі нездавальнення і расчаравання сваім маладым настаўніцкім жыццём і тою абстаноўкаю, у якой прыходзілася жыць».

Але ў чым жа выйсце? У картах ці можа ў зборышчах і п'янках? Хаця для сяброў яшчэ не ясна акрэслены далі, але і не «на зялёным полі» бачаць яны прызванне.

*«– Усе мы, браток, напэўна, за першы год настаўніцтва многа навучыліся мудрасці жыцця. Самае галоўнае, друг ты мой, гэта тое, каб не страціць усведамлення сваіх памылак.*

*– Правільна, старына, – падхапіў Садовіч. – Трэба ж, брат, знайсці ў жыцці нешта такое, што дадавала б сэнсу гэтаму жыццю. Трэба перш за ўсё пашырыць свой кругагляд, выблытацца з павуціння, што засланяе разумнае жыццё...*

*Гэтыя разважанні мелі для сяброў тое значэнне, што падмацавалі ў іх шуканнях чагось новага, асэнсаванага і падымалі над забраснявелым балотам грамадскага жыцця; гэтыя разважанні падтрымалі той агонь, які не дае памерці ў заглух чалавеку для грамадскай работы, – адным словам, яны былі як бы маральнаю чысткаю, што ніколі не шкодзіць чалавеку».*

Я. Колас тонка паказвае розніцу між праўдашукальнікамі і тымі героямі «зялёнага поля», якіх засмактала «забраснявелае балота». Праўда, не ўсё чалавечнае выветрылася з гэтых абывацельскіх душ, але помыслы і думкі іх не ідуць далей картаў і выпівак. Няхай Садовіч і Лабановіч пакуль што няпэўныя ў сваіх пошуках, але зразумела і тое, што яны не прынялі «зялёнага поля» і тых «драпежніцкіх, прагавітых, закураных пылам і дымам» нялюдскіх твараў.

Пасля напісання аповесці «У глыбі Палесся» Я. Колас толькі больш чым праз дваццаць гадоў «вярнуўся» да сваіх герояў. З канца 1940-х гадоў яго ўяўленне зноў трывожаць успаміны рэвалюцыйнай маладосці. І разам з Я. Коласам «ідзе» да настаўніцкага з'езда Лабановіч. Цяпер ён разумее, што «ісці далей па шляху барацьбы адзіночкай-саматужнікам нельга. Патрэбна згодная, па выпрацаванаму плану работа тысяч людзей, якая б біла ў адзін пункт», патрэбна арганізацыя. Ён успамінае Алеся Садовіча і Янку Тукалу. «Ці не аб гэтым жа самым думалі і яны, калі заводзілі гутарку аб трыумвіраце, аб пастаянных зносінах паміж сабою». Так, не ў аднаго Лабановіча затоена думка аб яднанні сваіх сіл. «Садовіч пісаў, што яго школа стала прыстанішчам настаўнікаў, што з ім жыве Янка Тукала, Алесь Лушкевіч з-пад Шчорсаў і яшчэ збіраецца прыехаць некалькі чалавек. У пачатку ліпеня, не пазней пятага, – пісаў сябар, – павінен быць і ты, – непрыменна, абавязкова. Наладжваецца гуртковая маёўка. Трэба ж, чорт вазьмі, гульнуць хоць раз у год. Лабановіч зразумеў, на што намякае яго зямляк і блізкі сябар».

***Алесь КАМАРОЎСКІ,***
***пісьменнік, в. Мікалаеўшчына***

***(Заканчэнне будзе)***

## Кастрычнік

**25 – Дубінскі Сяргей Антонавіч** (1884, Гродзен. губ. – 1937), вучоны-археолаг, які склаў і выдаў першую «Бібліяграфію па археалогіі Беларусі і сумежных краін» (1933 г.) – 120 гадоў з дня нараджэння.

**28 – Ждановіч Фларыян Паўлавіч** (1884, Мінск – 1937), тэатральны дзеяч, акцёр, рэжысёр, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра – 120 гадоў з дня нараджэння.

**29 – Галавацкі Якаў Фёдаравіч** (1814–1888), украінскі гісторык, паэт, філолаг, фалькларыст, даследчык гісторыі і этнаграфіі Беларусі – 190 гадоў з дня нараджэння.



Фота Міколы КОТАВА

## Абуджэнне звона

***Самы вялікі ў Беларусі звон у хуткім часе будзе ўстаноўлены на званіцы Свята-Троіцкага сабора ў Хоцімску.***

Грошы на яго выраб – 37 мільёнаў рублёў – збіралі амаль паўтара года.

– Збіралі, што называецца, усёй грамадой, – сведчыць настаяцель Свята-Троіцкага сабора архімандрыт Кірыл. – Ахвяраванні паступалі ад прадпрыемстваў, арганізацый, прыватных фірмаў, прыхаджан. А яшчэ нам дапамаглі жыхары суседняга Клімавіцкага раёна.

Прыгажун звон, выраблены на Мінскім прадпрыемстве выдатнага ліцця, складаецца з 17 сплаваў, а важыць 80 пудоў – каля 1 300 кілаграмаў.

А «разбудзіць» яго званар з мінскай царквы ў гонар іконы Божай Маці «Усіх тужлівых Радасць».

***Галіна ВІР, «Голас Радзімы»***

## Рэкі і ракі

Тут мы цалкам салідарныя з прафесарам Барысам Савіцкім, які па беларускім радыё ўзняў праблему зарыблення айчынных вадаёмаў і, у прыватнасці, Свіслачы. Сапраўды, даўно настаў час Міністэрству прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя выйсці ў беларускі парламент з ініцыятывай аб прыняцці закона аб захаванні і прымнажэнні рыбных рэсурсаў нашай краіны шляхам разумнага гаспадарання на рэках і азёрах, іх паўсюдным зарыбленні каштоўнымі сартамі рыбы: карпам, таўсталобікам, белым амурам.

Так, даўно разводзяць рыбу ў прамысловых вадаёмах, Нарачы і Браслаўскіх азёрах, Заслаўскім вадасховішчы, у гарадскіх і сельскіх вадаёмах, кар'ерах, старыцах, сажалках. У той жа Вілейска-Мінскай воднай сістэме , у яе праточнай вадзе, водзіцца любая рыба: карась, акунь, карп і нават печкуры і ракі. І не дзіўна, бо вада ж чыстая.

Зарыбленне гарадскіх, як у Ветцы, і сельскіх вадаёмаў – не толькі надзённая, але і шматмэтавая і ўдзячная задача. Трэба толькі аб'яднаць намаганні насельніцтва, рыбгасаў, экалагічных ведамстваў і рыбаахоўнай службы.. І мы зможам аздаравіць сябе, нашых дзяцей захапляючай рыбалкай і даступнымі рыбапрадуктамі з фосфарам, вітамінамі і мікраэлементамі.

***Паводле перыядычнага друку***

## Народныя казкі

### Соль

Неразумны быў калісьці народ, непісьменны. Усе ведалі, напрыклад, што страва з соллю робіцца смачнейшай, а чаму – не разумелі. Да таго ж даставалася яна цяжка і дорага, дзесьці за морам здабывалі яе, вельмі далёка везлі, прадавалі ўтрыдорага.

І вось вырашылі мужыкі пасеяць соль у сябе ў вёсцы. Купілі цэлы мех, зрабілі вялікую градку і засеялі яе. Палівалі, угнойвалі градку, усё чакалі, калі ж з'явяцца ўсходы.

Так і не дачакаліся...

*Запісана ад Ганны Саскевіч, в. Палосцевічы, Жыткавіцкі раён*

### Хітрая нявеста

Была ў бацькі дачка. У яе была адна загана – дрэнны зрок, і таму жаніхі абыходзілі дзяўчыну. А ёй вельмі хацелася выйсці замуж.

І вось дачка дамовілася з бацькам, што, як прыйдуць сваты з суседняй вёскі, якія не ведаюць пра загану нявесты, ён пакладзе каля парога іголку, і тая заўважыць яе...

Так і зрабілі. Прыехалі сваты, размаўляюць з бацькам, а дачка і гаворыць: «Ой, татачка, што гэта іголка ля парога ляжыць? Крый Божа, сваты наколюцца...»

Прыехалі сваты ў другі раз на заручыны. А дачка з бацькам дамовіліся, што пакладуць у шчыліну паміж дошкамі манетку, і нявеста ўбачыць яе. «О, якая дзяўчына відушчая, – задаволена падумалі сваты. – Ад яе пільнага вока нічога не схаваецца».

Дамовіліся пра вяселле. Пайшла нявеста праводзіць гасцей да веснічак. Ішла, ішла, ды і трапіла замест брамы ў плот, вобмацкам шукае выхад... Тут сваты і зразумелі падман, расстроілася вяселле.

*Запісана ад Ганны Новік, в. Пяскі, Мастоўскі раён*

### Сава

У глухім лесе, у дупле вялікага дрэва жыла сава – старая і разумная. Яна ўсім аб'явіла, што хоча замуж. Першым завітаў да яе ў госці філін.

– Давай, – кажа, – жыць разам.

А сава ганарлівая:

– Ты што! Не раўня... Калі я захачу, дык за самога князя магу выйсці замуж.

– Ну, як хочаш. – Паляцеў філін у свой лес.

Пачалі злятацца да савы розныя жаніхі – сокалы і вароны, галкі і гусі. Выбрала сава белага гусака: ён багаты, поў-ныя свіраны зерня, парасяты вэнджаныя вісяць пад страхой.

Пачалі саву прыбіраць, апранаць, абуваць. Сініцы-ігрыцы сядзяць на паліцы, весела спяваюць, саву велічаюць... Пілі-елі, піравалі, вяселле спраўлялі.

Паляцелі маладыя да месца сямейнага жыхарства. Сава ў дуплішча імкнецца, а гусак у возера цягне, дзе заўсёды плаваў. Кажа: «Мне і тут добра, не палезу я ў дупло».

Сядзела сава ў дупле, сядзела – не з'яўляецца муж да яе. Так і засталася жыць адна. Шкадавала: «Трэба было ўсё ж за філіна замуж ісці...»

*Запісана ад Юліі Супран, в. Гуды, Валожынскі раён*

***Да друку падрыхтаваў Мікола КОТАЎ***

## Сусветны дзядзінец

**240 г. да н.э.** Грэчаскі вучоны Эратасфен Кірэнскі ўпершыню ў свеце вылічыў радыус Зямлі.

**1067.** Першае пісьмовае ўпамінанне Менска ў расказе Уладзіміра Манамаха пра бітву на Нямізе, калі непакорлівыя (паводле Дз. Ліхачова «сепаратысты») палачане адстойвалі сваю незалежнасць.

**1786.** Французскія альпіністы Ж. Бальма і Мюпакар пакараюць вяршыню Манблан і закладваюць пачатак сусветнага альпінізму.

**1859.** Француз Жан Бландэн (Жан-Франсуа Гравелэ) пераходзіць цераз Ніягарскі вадаспад па нацягнатаму канату. За пераходам адважнага канатаходца на працягу пяці хвілін назіраюць 5 000 гледачоў.

**1861.** Першае ў свеце турыстычнае бюро Томаса Кука адпраўляе ў паездку першую ў свеце турыстычную групу (з Лондана ў Парыж).

**1898.** Амерыканец Джошуа Слокум завяршыў першае ў свеце адзіночнае кругасветнае плаванне.

**1906.** У Пецярбургу ствараецца першае беларускае легальнае выдавецтва. Яго назвалі «Загляне сонца і ў наша ваконца».

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**БАЙНІЦА** – адтулак у сцяне абарончага збудавання, каб праз яго весці стральбу са стралковай зброі (закрытыя байніцы) ці прасвет паміж зубцамі ў завяршэнні крапасных сцен, вежаў і інш. (адкрытыя байніцы). З'явіліся яшчэ ў старажытнасці і асабліва ў сярэдявеччы, калі пачасцілі будаваць замкі, крэпасці, умацаванні гарадоў, а з XIV–XV стст. таксама і ў палявых абарончых умацаваннях.

На Беларусі байніцы вядомы ў драўляных абарончых збудаваннях з самай далёкай даўніны, у мураваных вежах – з XIII ст. (Камянецкая вежа); з іх вялі стральбу з лукаў і арбалетаў, мелі прамакутнюю, трапецападобную, паўцыркульную форму. Асабліва пашырыліся ў XIV ст. (Лідскі, Крэўскі замкі). У XV–XVI стст. байніцы будаваліся акругла, бо пачала шырока ўжывацца ручная агнястрэльная зброя (рушніцы, аркебузы, мушкеты) і лёгкія гарматы (гакаўніцы), у XVII ст. – форму фігуры, утворанай з круга і прамакутніка, пастаўленага на яго карацейшым бокам (замак у г.п. Любча Навагрудскага раёна, касцёл у в. Камаі Пастаўскага раёна, кляштар брыгітак у Гродне). На валах земляных умацаванняў XVI–XVII стст. былі і адкрытыя байніцы – прасветы паміж лазовых кашоў, напоўненых зямлёю. Байніцы, што выкарыстоўваліся для таго, каб з іх страляць з гармат, называліся амбразурамі (на Беларусі вядомы з XVI ст. у Гродзенскім Старым, Мірскім замках, Брэсцкай, Бабруйскай крэпасцях і інш.), для кідання камянёў – машыкулямі (навясныя байніцы, што размяшчаліся ў верхняй частцы сцяны замка, вежы, абарончага храма, адкуль стралялі ці, апроч камення, лілі вар ці гарачую смалу).

**БАКА ЮЗАФ** (18.03.1707, Міншчына – 02.05.1780) – польскі паэт, каталіцкі прапаведнік. У 1840-х гадах жыў у Мінску, пасля прапаведнічаў у Навагрудку і Вільні. Напісаў, згодна думкі А. Мальдзіса, «вычварны, у стылі барока паэтычны зборнік «Заўвагі аб непазбежнай смерці» (1766), дзе побач з усхваленнем звышнатуральных сіл і асуджэннем «марнасці быцця» крытыкаваў прыгоннікаў, якія не дбаюць пра сваіх сялян». З-за таго, што Бака наўмысна ці несвядома падладжваўся пад просты люд, сумяшчаў прымітыўны гумар і афарыстычнасць, яго вершы ў XVIII ст. былі папулярныя. У XIX ст. польскімі і беларускімі пісьменнікамі высмейваліся за нізкі ўзровень. Тым не менш паэтычны стыль Бакі выкарыстоўвалі В. Дунін-Марцінкевіч («Просьба нумар 1»), У. Сыракомля («Наследаванне Баку»).

**БАКШТЫ** – вёска ў Шчучынскім раёне, паблізу ракі Нявіша. За 38 км на поўнач ад Шчучына, 24 км ад чыгуначнай станцыі Скрыбаўцы. У свой час было мястэчка, таму захавалася адпаведная архітэктурна-планіровачная структура. Гэта падкрэсліваюць тры вуліцы: галоўная, дзе размешчаны грамадскія будынкі, паралельная ёй (з захаду на ўсход) і вуліца, што адыходзіць на поўдзень ад галоўнай. Пераважна індывідуальная сядзібная забудова. Вытворчая частка ў паўднёвых і паўднёва-ўсходніх баках. На хутары Пясчына (1 км ад Бакштаў) у 1876 годзе нарадзілася беларуская паэтэса Цётка. Непадалёку Бакштаў ва ўрочышчы Мілёва ёсць стаянка эпохі неаліту і бронзавага веку. Паводле генплана 1977 года, фарміраваліся грамадскі і гандлёвы цэнтры, парк, пачалі будавацца двухпавярховыя чатырохкватэрныя дамы. У гэтым краі Бакшты вядомы і як месца, дзе выраблялі моцны напой пад назвай «бакштанка».

**БАЛАБАС** – беларускі народны танец. Азначаны ў канцы XIX ст. у Ваўкавыскім павеце. Выконваўся пад жартоўныя прыпеўкі. Музычны памер 2 на 4. Танцавалі шпарка.

### Памяці Наталлі Мазоўка

*7 кастрычніка ад нас адышла Наталля Мазоўка. Яна нарадзілася 10 лютага 1952 года ў Гродне. У 1975 г. скончыла гістарычны факультэт БДУ. Выстаяўшы ў змаганні з цяжкай хваробай, пачала працаваць у музеі Максіма Багдановіча на сціплай пасадзе сакратара-машыністкі, затым стала навуковым супрацоўнікам музея гісторыі беларускай літаратуры. З 1992 г. працавала рэдактарам у Беларускай энцыклапедыі, з 2002 года – навуковым супрацоўнікам музея гісторыі медыцыны. Дасканала вывучыла польскую мову, перакладала творы польскіх пісьменнікаў. Наталля Мазоўка – аўтар шэрагу публікацый па гісторыі беларускай культуры: летапісу жыцця і творчасці М. Багдановіча ў Поўным зборы твораў паэта, судовай справы А. Гаруна ў гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў». Авалодаўшы рамяством рэдактара-энцыклапедыста, удзельнічала ў складанні і падрыхтоўцы да друку такіх выданняў, як «Выбранае» М. Улашчыка, «Гісторыя Беларусі» М. В. Доўнар-Запольскага, «Беларуская думка XX стагоддзя» і «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя» Ю. Гарбінскага, «Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі» С. Кандыбовіча і інш. Яна сабрала, пераклала і падрыхтавала да друку ў серыі «Беларускі кнігазбор» спадчыну класіка беларускага краязнаўства Аляксандра Ельскага, том у бліжэйшы час убачыць свет. Некаторыя артыкулы з падрыхтаванага тома Наталля папярэдне змяшчала ў часопісах «Спадчына», «Наша вера», у газеце «Чырвоная змена». Жыццё Наталлі Клаўдзіеўны Мазоўка – прыклад мужнасці, самаахвярнасці і адданасці Беларусі.*

***Віталь СКАЛАБАН***
***08.10.2004 г.***

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач». Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 14.10. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1681.
Тыраж 1200.